ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (68) лістапад 2016 год

CATHOLICNEWS.BY

## Пастырскія візітацыі біскупа Алега Буткевіча па парафіях Докшыцкага дэканата

Стар. 3–4

## З Тэхаса – у Беларусь

Стар. 8



## Святы, які прымусіў заплакаць імператара

Стар. 6



## Пытанні святару: пра праклёны і магію

Стар. 13



## Увага! Падпіска на першае паўгоддзе 2017 года!



**Кошт падпіскі:**
на месяц – **91 капейка**,
на 3 месяцы – **2 рублі 73 капейкі**,
на 6 месяцаў – **5 рублёў 46 капеек**.
Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**

# Браму Міласэрнасці зачынілі ў віцебскай катэдры



**«Брамай Міласэрнасці для нас застаецца Езус Хрыстус», – нагадаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч 13 лістапада падчас святой Імшы ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску на заканчэнне надзвычайнага Года Міласэрнасці.**

**Кацярына Лаўрыненка**, *catholic.by*

У гэты дзень ва ўсіх юбілейных святынях Беларусі праходзіла закрыццё Святых Дзвярэй – Брамаў Міласэрнасці, якія былі адчынены на пачатку юбілейнага года.

У гаміліі біскуп Віцебскі нагадаў, што ў такі дзень касцельная супольнасць перадусім «дзякуе Богу за гэты вялікі дар». «Ідэя юбілейнага Года Міласэрнасці прадугледжвала перш за ўсё аднаўленне ў свядомасці чалавека важнай праўды: Бог для чалавека з'яўляецца не строгім суддзёй, а міласэрным Айцом», – падкрэсліў іерарх.

Разважаючы пра Божую міласэрнасць, біскуп Віцебскі ўзгадаў евангельскую прыпавесць пра марнатраўнага сына і эпізод з распусніцай, адзначыўшы, што ў гэтых тэкстах Святога Пісання Бог выразна праяўляе сваю сутнасць: «Езус не хваліць грэх, але разам з тым і не асуджае. Ён хоча аказаць міласэрнасць кожнаму, хоча кожнага прывесці да Бога, а не адштурхнуць». Разам з тым іерарх падкрэсліў, што «Божая міласэрнасць даецца чалавеку, які гэтага прагне і які імкнецца выправіць сваё жыццё».

«Паводле наказу Касцёла мы зачыняем Браму Міласэрнасці, але разам з тым Брама Міласэрнасці для чалавека не знікае, бо гэтай брамай для нас з'яўляецца споведзь – той дар, які ачышчае нас ад граху і ставіць у справядлівасці перад Богам», – дадаў іерарх.

«Год Міласэрнасці павінен яшчэ раз нагадаць нам гэтую праўду, заахвоціць не баяцца адкрыць сваю душу перад Богам, не баяцца прызнаць сваю слабасць і недасканаласць, – заўважыў біскуп Віцебскі. – Але разам з тым мы застаёмся Божымі дзецьмі, тымі, каго Бог прагне прывесці да свайго Валадарства». На заканчэнне гаміліі іерарх заклікаў быць «больш падобнымі да Айца ў Яго міласэрнасці».

Выкананнем спеву «Магніфікат» прысутныя на чале з біскупам Віцебскім выказалі падзяку Богу за юбілейны Год Божай Міласэрнасці.

Пасля Імшы група парафіянаў прадставіла прысутным невялікую сцэнку, прысвечаную тэме выбару Бога ў жыцці.

Пры ўваходзе ў віцебскі катэдральны касцёл Езуса Міласэрнага будзе ўмураваны памятны знак Года Міласэрнасці.



## Заступніца наша Нябесная

**Кожны кастрычніцкі вечар адбывалася ў Лынтупскім касцёле ружанцовае набажэнства перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам.**

**Нэля Лось**, *Лынтупы*

Разам з ксяндзом-пробашчам Паўлам Кнурэкам маліліся вернікі з любоўю і пашанай да Нябеснай Заступніцы, давяраючы Ёй свае таямніцы і надзеі, дзякуючы за літасць і міласэрнасць. Вялікія скарбы спасылае Пан Езус праз Сваю Маці роду чалавечаму, і ніколі не прыпыняецца Яе ўдзел у нашым жыцці. Аб'яўляюцца ўсё новыя прыклады цудоўнай дапамогі, а нашы сэрцы, натхнёныя святлом Божай міласэрнасці, умацоўваюцца ў веры, шукаюць шляхі да жыцця вечнага.



Не ў бляску каштоўных камянёў, не ў дарагіх шатах хадзіла калісьці па зямлі Матачка наша, а басанож. Сэрца Яе, прабітае мячом, што сімвалізуе гора, боль, муку і смутак, заўсёды адклікаецца на малітву сапраўднага верніка.

З прасветленымі тварамі, з надзеяй і суцяшэннем выходзяць людзі з касцёла, бо ўпэўненыя, што Маці Божая гатова выслухаць і прыйсці на дапамогу ўсім, хто пра гэта просіць.

## Трамп пообещал отстаивать христианские ценности вместе с католиками

**Новый глава Белого Дома Дональд Трамп, победивший на президентских выборах в США, выступил со словами признания заслуг и действий американских католиков, сообщает katolik-gomel.by со ссылкой на credo-ua.org.**



«Католики сыграли важную роль в истории Америки. Америка набиралась сил благодаря католикам, которые тяжело работали от Нью-Йорка до Калифорнии. Их история поистине выдающаяся и прекрасная: от отстаивания гражданских прав на образование миллионов детей до служения бедным и деятельности в движениях pro-life. Священники и миряне по всей стране сделали свой неисчислимый вклад в успех Америки. Вашингтонские политики до сих пор были врагами Церкви и католиков. Моя администрация будет стоять бок о бок с американскими католиками, чтобы поддерживать ценности, которые мы признаем совместно как христиане и американцы.

Пусть вас Бог благословит, пусть Бог благословит Америку! Мы сделаем так, чтобы Америка вновь стала великой».

# Кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі наведаў з візітацыяй парафію ў Параф'янаве

**Візітацыя біскупа Алега Буткевіча адбылася ў нядзелю, 30 кастрычніка.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*



Гэта падзея мае месца раз на пяць гадоў і з'яўляецца адной з найважнейшых для парафіі. Візітацыя біскупа ў дыяцэзіі ёсць апостальскай дзейнасцю і паказвае, што біскуп – падмурак і знак еднасці дыяцэзіяльнага Касцёла.

Як падкрэсліў пробашч парафіі ксёндз Раман Мурзіч, візітацыя важная для парафіі як з матэрыяльнага гледзішча, так і з духоўнага.

– Візітацыя біскупа – гэта як апостал, што прыходзіць, каб пераканацца, ці ідзе парафіяльная сям'я ў кірунку развіцця духоўнага, і развіцця таксама матэрыяльнага. Гэта і дагляд будынкаў, перш за ўсё святыні, і духоўнае жыццё: як парафія развіваецца...

Біскупская візітацыя – добрая нагода для кіраўніка дыяцэзіі паглыбіць кантакты з душпастырамі, вернікамі і рознымі малітоўнымі і апостальскімі супольнасцямі. Прыезд біскупа ў парафію з хваляваннем чакалі не толькі святары, але і вернікі. Паэтка з вёскі Сітцы Марыя Ючкавіч з гэтай нагоды напісала верш, які прагучаў напрыканцы набажэнства "ў знак падзякі за сакрамант канфірмацыі, за Імшу святую, за слова Божае, якое з яго вуснаў гучыць больш даходліва і нас яшчэ больш напаўняе верай".

Як адзначыла спадарыня Марыя, "у касцёле ўсе правядуць гэтыя гадзіны з незвычайным настроем, узрушаныя прысутнасцю высокага госця, і ўсё ў касцёле будзе асветлена тым, што ён сярод нас сёння".

Урачыстасці з нагоды візітацыі распачаліся з выстаўлення Найсвяцейшага Сакраманту. З нагоды прыезду высокага госця святыня была цалкам запоўненая вернікамі. Трэба адзначыць, што надвор'е на гэты раз перашкодзіла вернікам урачыста сустрэць свайго пастыра каля касцёла. Таму іерарха спаткаў пробашч парафіі разам з міністрантамі. Пасля ўрачыстага ўваходу ў храм парафіяне прывіталі біскупа Алега Буткевіча, уручыўшы яму хлеб і кветкі. Яны падзякавалі Богу за тое, што зараз існуе магчымасць свабодна вызнаваць веру, адзначыўшы пры гэтым, што цяпер парафія мае сваіх мясцовых святароў.

Потым распачалася святая Імша, якую ўзначаліў кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі. Урывак з Евангелля для прысутных прачытаў ксёндз Аляксей Юркайць, каторы з'яўляецца вікарыем у парафіі ў Параф'янаве. У слове Божым гаварылася пра падзею, якая адбылася ў Ерыхоне, калі Езус прыйшоў у горад і Яго прывітала шмат людзей. Там жыў Закхей, кіраўнік мытнікаў, гэта значыць, зборшчыкаў падаткаў. Закхей быў багатым чалавекам і супрацоўнікам ненавісных рымскіх акупантаў, эксплуататарам свайго народа. Таксама і ён, з цікавасці, хацеў убачыць Езуса, але стан публічнага грэшніка не дазваляў яму наблізіцца да Настаўніка. Больш за тое, ён быў малога росту, і таму залез на дрэва, на смакоўніцу, каб убачыць, дзе праходзіць Езус. Тым не менш, Езус, убачыўшы Закхея на дрэве, загадвае яму спусціцца і выказвае жаданне абедаць у яго доме. Гэта выклікала незадавальненне сярод народу...

У сваім слове да вернікаў біскуп паразважаў над падзеямі, апісанымі ў Евангеллі ад Лукі. І ў наш час верыць у Хрыста, хадзіць у касцёл, жыць па Божых наказах –значыць быць у нейкай ступені "белай варонай" у вачах іншых людзей. Бо калі не красці, не маніць, не плёткарыць, не зайздросціць, то цяжка дасягнуць высокага становішча ў грамадстве. А шмат хто імкнецца да гэтага любым коштам, лічачы астатніх людзей няўдачнікамі. Таму людзям трэба мець у наш час адвагу, каб вызнаваць сваю веру.

Біскуп адзначыў, што паляпшэнне матэрыяльнага становішча чалавека не заўсёды становіцца адбіваецца на яго веры ў Бога. Чалавек думае: "Я ўсё маю, навошта мне Бог". У якасці прыкладу ён прывёў краіны Захаду, дзе грамадства становіцца ўсё больш атэістычным. А страціўшы Бога, мы трацім сам сэнс нашага існавання.

Таксама іерарх заўважыў, што Бог ёсць Любоў. І любіць яго трэба ў сваім бліжнім. Калі мы любім Бога, Якога не бачым, а не любім свайго бліжняга, якога бачым, то тады наша вера вельмі слабая. Напрыканцы гаміліі біскуп заклікаў усіх маліцца, каб у Беларусі, і ў тым ліку ў парафіі ў Параф'янаве, было больш пакліканняў.

> **«Гэты сакрамант трэба прымаць у сталым узросце, калі ты ўжо разумееш, што атрымліваеш пры гэтым паўнату дароў Духа Святога»**

Візіт біскупа стаў добрай нагодай для прыняцця сакраманту канфірмацыі для некалькіх дзясяткаў вернікаў. Сярод іх былі як людзі маладзейшыя, так і старэйшыя, якія не маглі прыняць гэты сакрамант у часы пераследавання веры. Кандыдаткай на бежмаванне, як яшчэ называюць канфірмацыю, была нават жанчына з 1931 года нараджэння. Сястра Марына Ескевіч, якая дапамагала вернікам рыхтавацца да гэтай падзеі, адзначыла яе важнасць для ўсіх парафіян:

– Гэты сакрамант трэба прымаць у сталым узросце, калі ты ўжо разумееш, што атрымліваеш пры гэтым паўнату дароў Духа Святога, якія дапамагаюць у дарослым жыцці мужна сведчыць пра веру.

Трэба адзначыць, што алтар у храме быў упрыгожаны сямю букетамі ружаў, якія сімвалізавалі сем дароў Духа Святога.

На заканчэнне Імшы вернікі падзякавалі біскупу за атрыманы сакрамант.

Ала Балашка з Параф'янава прачытала верш, які паэтка Марыя Ючкавіч напісала адмыслова да прыезду біскупа. У вершы сярод іншага было пажаданне, каб усе мары іерарха збыліся.

У сваім слове падзякі біскуп адзначыў, што самай вялікай марай для яго з'яўляецца адбудова касцёла святога Антонія ў Віцебску. Гэты храм стаяў у цэнтры горада і быў разбураны ў часы ваяўнічага атэізму. Зараз ужо дасягнута разуменне з уладамі наконт яго аднаўлення. Гэта справа будзе патрабаваць як малітоўнай, так і матэрыяльнай падтрымкі. І вось гэтай падтрымкі біскуп таксама папрасіў і ў параф'янаўскіх вернікаў.

Закончылася набажэнства біскупскім бласлаўленнем і спевам "Ave Maria" ў выкананні парафіяльнага хору.

Пасля Імшы іерарх правёў сустрэчу з вернікамі, падчас якой яны маглі задаць яму свае пытанні. Біскуп таксама падпісаў для парафіі кнігу Папы Францішка "Імя Бога – Міласэрнасць", што выйшла на беларускай мове. Нядаўна асобнік кнігі быў уручаны ў Рыме Папу Францішку. Біскуп Алег перадаў прывітанне вернікам ад Папы і заклікаў іх маліцца за тое, каб Пантыфік змог наведаць Беларусь. Зараз гэты візіт, адзначыў біскуп, не здаецца ўжо нечым немагчымым.

Напрыканцы сустрэчы ардынарый яшчэ раз заклікаў вернікаў маліцца за тое, каб было больш пакліканняў з гэтай парафіі, а маладым людзям параіў больш уважліва слухаць голас свайго сэрца, каб адчуць голас Божы.

У гэты дзень кіраўнік дыяцэзіі таксама наведаў капліцу ў вёсцы Кіякова і Дом Міласэрнасці ў Сітцах, якія знаходзяцца на тэрыторыі параф'янаўскай парафіі.



# Біскуп Алег Буткевіч наведаў з візітацыяй парафіі ў Барсуках, Порплішчы і Крулеўшчыне



**Візіт біскупа адбыўся ў нядзелю, 6 лістапада, нягледзячы на вельмі неспрыяльнае надвор'е. Біскуп Алег пажартаваў, што сённяшняе надвор'е больш падыходзіць да свята Божага Нараджэння, чым для актавы Усіх Святых.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Парафія ў Барсуках, як адзначыў пробашч ксёндз Юрый Бараўнёў, невялікая, але жывая. Большасць жыхароў вёскі належыць да праваслаўнай канфесіі, каталікамі ў асноўным з'яўляюцца тыя, хто пераехаў сюды з іншых мясцін.

І хоць на двары ішоў снег, усе вернікі выйшлі са святыні, каб прывітаць свайго пастыра. Віталі яго па традыцыі з хлебным караваем.

Пасля ўрачыстага ўваходу ў храм распачалася святая Імша, якую ўзначаліў ксёндз Юрый Бараўнёў.

Слова да вернікаў прамовіў біскуп Алег Буткевіч. Ён звярнуў увагу на праўду ўваскрасення Хрыстовага. Іерарх узгадаў, што нават у часы найбольш ваяўнічага атэізму камуністычныя ўлады не перайменавалі першы дзень тыдня, які па-руску называецца "воскресенье". Мы таксама павінны верыць ва ўваскрасенне, якое адбудзецца пасля другога прыйсця Езуса Хрыста. Смерць разлучае душу з целам, але падчас уваскрасення яны зноў з'яднаюцца. І мы павінны ў гэта верыць.

У якасці прыкладу моцы веры біскуп прывёў падзеі, што апісваюцца ў Старым Запавеце, калі за веру кароль за адзін дзень забіў сем сыноў на вачах у маці. Але, нягледзячы на катаванні, яны не выракліся сваёй веры, а маці іх падтрымлівала ў гэты цяжкі момант выпрабавання.

Вядома, нам шкада, калі памірае блізкі чалавек, падкрэсліў іерарх. І мы часта плачам. Нават Езус плакаў, калі памёр яго сябар Лазар. Але наш смутак не павінен перарастаць у роспач. Мы павінны верыць, што сустрэнемся са сваімі блізкімі ў будучым свеце. Яшчэ часта бывае, што чалавек плача не столькі па сваім блізкім, як па сабе, бо яму будзе цяжка без яго жыць. Таму нам вельмі важна малітва за памерлых. Прыйдзе час, і мы таксама будзем патрабаваць гэтай малітвы. Калі мы будзем мець у сваім сэрцы веру, то і смерць нам не будзе здавацца страшнай.

"У чым сэнс стварэння чалавека", – спытаў біскуп у вернікаў? І ў адказ пачуў, што Бог стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства. Чалавек у адрозненне ад жывёл мае розум і вольную волю. Вось таму мы і нясём адказнасць за свае ўчынкі.

Чалавек хоча шчасця, адзначыў іерарх, а шчасце значыць не толькі задавальненне матэрыяльных патрэбаў. У якасці прыкладу ён прывёў ката, які жыве ў добрых гаспадароў, які ўсё мае, але ці шчаслівы ён? Па ўсім відаць, што не, бо склаў бы ў гонар гаспадара верш або песню. Вось чаму чалавек, маючы вольную волю, павінен славіць свайго Стваральніка.

Мы павінны рыхтавацца для жыцця вечнага, як нам абяцае вера. Менавіта ў гэтым сэнс жыцця сапраўднага хрысціяніна. Сённяшні вялікі ўзровень самагубстваў паказвае, што адбываецца, калі чалавек траціць сэнс жыцця.

Напрыканцы біскуп заклікаў яшчэ раз перагледзець сваё жыццё, прысвяціць гэтыя дні малітве за памерлых, бо толькі паставіць свечку яшчэ не дастаткова.

Святая Імша закончылася выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту і Літаніяй да Крыві Езуса Хрыста.

Пасля набажэнства біскуп адказаў на пытанні вернікаў і накіраваўся ў Порплішча.

У Порплішчы пробашч парафіі ксёндз Юрый Бараўнёў сустрэў біскупа на ўваходзе ў касцёл. Вернікі ж прывіталі іерарха перад алтаром, уручыўшы яму хлебны каравай і кветкі. З нагоды прыезду высокага госця храм быў па-святочнаму прыбраны.

Святочную Імшу ў Порплішчы ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. Ён жа прамовіў да вернікаў і сваё слова.

Падчас Імшы адбылася працэсія з дарамі. Іерарху ўручылі свечку, крыж, Біблію, кветкі, хлеб і віно.

Напрыканцы Імшы вернікі падзякавалі біскупу за візітацыю і прамоўленае да іх слова, якое нікога не пакінула абыякавым, а таксама ўручылі яму падарунак. Падарунак і словы падзякі атрымаў таксама і пробашч парафіі.

Парафіянка Нарбэрта Камянецкая звярнулася да біскупа з просьбай не пераводзіць ад іх ксяндза Юрыя: "Нам нікога лепшага не трэба, бо ён такі працаўнік, якога цяжка знайсці. І трактарыст, і шафёр, і будаўнік, і архітэктар, нічога не баіцца. Вось таму я звяртаюся да біскупа, каб ён ад нас яго не забіраў, каб пробашч пацешыўся з таго, што ён набудаваў".

Па заканчэнне Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, вернікі памаліліся Літаніяй да Маці Божай, а потым праспявалі "Магутны Божа".

Трэба адзначыць, што ў касцёле ў Порплішчы было шмат дзяцей, што дае надзею на захаванне веры.

Пасля Порплішча шлях біскупа ляжаў у Крулеўшчыну, дзе яго таксама чакалі вернікі. Парафія ў Крулеўшчыне з'яўляецца яшчэ адной, якую абслугоўвае ксёндз Юрый Бараўнёў.

Святую Імшу тут таксама ўзначаліў біскуп. Ён жа і прамовіў гамілію да вернікаў.

Нягледзячы на тое, што гэтыя тры парафіі невялікія, яны маюць вельмі вялікае значэнне для жыцця дыяцэзіі, адзначыў біскуп Алег. Менавіта з такіх малых парафій прыходзяць потым вернікі ў вялікія гарадскія каталіцкія супольнасці.

Так, сельскае насельніцтва змяншаецца, але біскуп выказаў надзею, што разам мы зможам захаваць і нашу веру, і нашы святыні.





# Дабрачыннасць і асветніцкая дзейнасць прывілеяванага саслоўя Лепельскага павета XIX – пачатку XX стст.

**«Не для таго мы разважаем, каб ведаць, што такое дабрачыннасць, а для таго, каб стаць добрымі людзьмі», – казаў Арыстоцель. Філосаф лічыў, што дабрачыннасць мае не прыроджаны характар, а фармуецца чалавекам у працэсе практычнай дзейнасці.**

**Наталля Мізярска**, *Ушачы*

Паняцце дабрачыннасці змянялася на працягу гісторыі чалавецтва, але мараль заставаласяаднолькавай.Вядома,што прадстаўнікі прывілеяванага саслоўя Беларусі былі не толькі адукаванымі людзьмі свайго часу, але і стараліся садзейнічаць пашырэнню асветы сярод простага насельніцтва.

Шляхта Лепельскага павета таксама займалася дабрачыннасцю: ахвяравала грошы на храмы, садзейнічала пашырэнню асветы сярод ніжэйшага саслоўя.

Так, уладальнік маёнтка Арэхаўна Мікалай-Юзаф Грабніцкі (1789-1867), маршалак шляхты Лепельскага павета, а пазней Віцебскай губерні, выступіў у 1819 годзе фундатарам царквы Параскевы Пятніцы ў Арэхаўне, якая спачатку была ўніяцкай, а пасля стала праваслаўнай. У 1867 г. ён быў пахаваны каля царквы.

У 1908 г., калі ва Ушачах вернікам удалася дабіцца дазволу на пабудову новага касцёла, але не хапала грошай, знайшліся людзі з мясцовай шляхты, якія дапамаглі. Гэта былі пан Рэўт, што ахвяраваў увесь свой капітал – 14000 руб. – і вядомая філантропка пані Івашэўская.

Калі ў 1840 г. згарэла праваслаўная царква ў Чашніках і касцёл Езуса Хрыста хацелі перадаць праваслаўнаму прыходу, ІгнатВаладковіч у 1843 г. на свае грошы пабудаваў у Чашніках мураваную Праабражэнскую царкву.

Вядома, што сям'я Лісоўскіх з маёнтка Воронічы Лепельскага павета была каталіцкай і фундавала грошы на патрэбы касцёла ў Заскарках.

Шляхцічы Маліноўскія з Чарапоўшчыны праводзілі культурную і асветніцкую дзейнасць сярод мясцовых сялян. Так Грасільда Маліноўская займалася хатнім лекаваннем і вучыла дзетак з навакольных вёсак чытанню, спевам, гісторыі, малітвам, а маладых дзяўчат – ткацтву, вышыванню.

У 1884 г. уладальнікі мястэчка Ула, браты Хвастовы, сталі фундатарамі Свята-Троіцкай царквы, якая згарэла ў выніку вялікага пажару ў 1882 г. Пасля сваёй смерці браты Хвастовы былі пахаваныя на тэрыторыі гэтай царквы.

Уладальнік мястэчка Бешанковічы граф Канстанцін Храптовіч-Буцянёў быў геніяльнай асобай для свайго часу. Ён атрымаў добрую адукацыю, займаўся асветніцкай і дабрачыннай дзейнасцю. Графу Храптовічу належыць даследаванне, якое ён напісаў у 1914 г.: "Арыстоцель Фіяфані, будаўнік Успенкага сабору". Таксама ён з'яўляўся чальцом Віцебскай архіўнай камісіі, падрыхтаваў выпуск часопіса " Полацка-Віцебскай даўніна" (1916 г.), дзе даследаваў паўстанне 1863 г. у Віцебскай губерні. Па сцвярджэнні І.С. Рабініна, аўтара артыкула "Мястэчка Бешанковічы", рукапісная "Гісторыя Бешанковічаў", якую склаў сам граф Храбтовіч, знаходзілася ў Бешанковіцкім палацы.

У пачатку XX ст. Храбтовіч удзельнічаў у адраджэнні Лаўрышаўскага мужчынскага кляштара. Яго намаганнямі быў збудаваны драўляны храм у гонар святога Елісея, а таксама брацкі корпус і хата для паломнікаў.

У маёнтку Быкаўшчына ў 1809 г. нарадзіўся Альфонс Козел-Паклеўскі, адукаваны і таленавіты чалавек. Ён займаўся дабрачыннасцю і гэтым пакінуў пра сябе добрую памяць: пабудаваў касцёлы ў Екацярынбургу і Омску, школы, дзіцячыя прытулкі, падтрымліваў сасланых у Сібір удзельнікаў паўстання 1863 г. Ён узяў пад апеку жонку і траіх малых дзяцей тагачаснага гаспадара Забалацця Лепельскага павета Адольфа Місуны, які быў запрошаны працаваць у Сібір і рана памёр. За сваю дабрачыннасць Альфонс Фаміч атрымаў ад Папы Рымскага ордэн Святога Яна Ерусалімскага, а ўладамі Расіі быў адзначаны ордэнам Святога Станіслава першай ступені.

На сродкі А.А. Рымскага-Корсакава, уладальніка маёнтка Бяздзедавічы, былі пабудаваныя царква і школа ў вёсцы Дубраўка. Ён з'яўляўся апекуном Дубраўскага народнага вучылішча, ганаровым міравым суддзёй Лепельскага павета.

Матывацыя дабрачыннасці прывілеяванага саслоўя была рознай. Часам яна выступала сродкам палітычнай і канфесіянальнай барацьбы, фактарам узмацнення шляхецкага прэстыжу. Але ўвогуле дабрачыннасць сведчыла пра ўзровень культуры шляхецкага асяроддзя, напоўненага высокім грамадзянскім сэнсам, вераю ў Бога.



Касцёл у Заскарках, фундатары Лісоўскія



Budujący się kościół w Uszaczu.

Ушацкі касцёл, фундатары пан Рэўт і пані Івашэўска

## В день памяти усопших наших родных и близких

В этом городе тихо, спокойно,
Лишь поют иногда соловьи.
И на нас только смотрят из фото
Наши близкие, те, кто ушли.

«Город мёртвых» зовут это место,
Здесь могилки одни лишь стоят.
Наши близкие, наши родные
Вечным сном в тех могилках лежат.

В этот день вспоминают усопших,
Подойдём к ним и тихо всплакнём.
На могилку поставим лампадку,
Пусть горит она вечным огнём.

Мы своею молитвой Вас вспомним,
И прославим мы Бога Отца.
И за Ваши мы души попросим
Милосердного Бога Творца.

Пусть он души на небо возносит,
Пусть в Раю они вечно живут!
Ну, а мы на могилке зажгли
Этот Вечный. Живой. Огонёк…

*Марина Аглушевич,*
*д. Николаево*

# Гінеколаг Анастасія Кавалеўская пра аборты: "Забойства нельга апраўдваць!"



**Урач-гінеколаг Анастасія Кавалеўская, якая працуе ў акушэрскім аддзяленні Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы, у сённяшнім нумары расказала "Каталіцкаму Весніку", чаму яна адмовілася рабіць аборты.**

**– Анастасія, па якой прычыне вы асабіста адмовіліся рабіць аборты?**

– Я адмовілася ад правядзення абортаў, бо з'яўляюся вернічай. А, як вядома, для кожнага хрысціяніна аборт – гэта цяжкі грэх забойства.

**– Ці шмат увогуле ў Беларусі медыкаў, якія, як і Вы, супраць перарывання цяжарнасці?**

– У нашай краіне шмат такіх лекараў, якія супраць аборту, але катэгарычна выступаюць супраць перарывання цяжарнасці нямногія. Так склалася, што зараз, на мой погляд, мы больш займаемся пытаннямі нашых сем'яў, нашага жыцця...

**– А як рэагуе кіраўніцтва на Вашае рашэнне?**

– Былі ў нашым калектыве непаразуменні і незадаволенасць з боку калег. Я ні ў якім разе не асуджаю іх і не чакала іншага. У маім калектыве асабіста я не сустрэла ніводнага доктара, хто б хацеў рабіць аборты. Мне вельмі шкада, што доктар праз свае службовыя абавязкі павінен рабіць падобныя маніпуляцыі. Мне вельмі шкада таксама, што ў нашай дзяржаве можна не праводзіць абортаў толькі ў выпадку, калі ёсць той, хто іх зробіць. Гэта вельмі няправільна, на мой погляд, і не вырашае па сутнасці праблему.

Прабачце за просталінейнасць, але мае рукі таксама ў крыві, і я перад вачамі Бога такі ж доктар, як і мае калегі, каторыя робяць аборты. Я нястомна задаю пытанне: чым адрозніваюся я, якая не робіць аборты, ад сваіх калег, што іх робяць? Бо ведаючы, што адмоўлюся я, за мяне гэта зробіць іншы. Гэта вялікі грэх і мой. І я вельмі хацела б, каб гэтага не рабіў ніхто.

Хочацца выказаць таксама словы ўдзячнасці майму навуковаму кіраўніку, загадчыку аддзялення Алегу Мікалаевічу Малаху, які вельмі тактоўна і талерантна падтрымаў мае перакананні.

**– Наколькі гэта складана – адгаварыць жанчыну ад перарывання цяжарнасці?**

– Менавіта для мяне адгаворваць ад аборту жанчын – самае цяжкае заданне. Нават магу сказаць, што гэта выпрабаванне. Я працую гінеколагам адзін год і адгаварыла ад перарывання цяжарнасці пакуль толькі дзвюх жанчын. Вельмі шкада таксама, што сярод тых, што прыходзяць рабіць аборт, ёсць і верніцы. На жаль, пад гнётам апраўданняў жанчыны ідуць на аборт. І вельмі шкадуюць пасля.

**– Ці ёсць, на Ваш погляд, абставіны, якія б апраўдалі аборты?**

– Кожная жанчына і кожны мужчына, якія робяць выбар на карысць перарвання цяжарнасці, прапануюць сабе і ўрачу вельмі шмат абставін, што апраўдваюць аборт. Але я заяўляю катэгарычна: такіх абставін няма! Забойства нельга апраўдваць, і нават спрабаваць знайсці апраўданні.

**– А з якой прычыны часцей за ўсё беларускія жанчыны ідуць на аборт?**

– Ведаеце, бясконца можна пералічваць і ўспамінаць тыя прычыны, па якіх жанчына перарывае цяжарнасць. Часцей за ўсё – гэта нечаканасць, матэрыяльная незабяспечанасць, мнагадзетнасць, малады ўзрост, адсутнасць мужа ці падтрымкі ад яго і сям'і, незакончаная вучоба і шмат іншага.

**– Якую ролю ў захаванні жыцця дзіцяці адыгрывае мужчына?**

– Мужчына можа даць жанчыне больш, чым хто іншы. Цвёрдае рашэнне, моцнае плячо і надзея ў той час, калі жанчына стаіць перад такім сур'ёзным выбарам у жыцці. Мне здаецца, што 70 % абортаў магло б і не быць, каб кожная жанчына мела такога мужчыну ў сваім жыцці.

**– Анастасія, скажыце, якія наступствы могуць чакаць жанчыну, што робіць аборт?**

– Амаль усе жаночыя хваробы могуць быць наступствамі аборту, асабліва такія цяжкія, як бясплоддзе і хваробы анкалагічнага характару. Аднак, я думаю, самае цяжкае пасля аборту тое, што жанчына на ўсё жыццё траціць сябе як чалавека, як жанчыну, як маці для тых дзяцей, якія ўжо ёсць. Яна мае шмат псіхічных і псіхалагічных праблем.

**– Ці аказваецца ў смаргонскай бальніцы кансультаванне для тых, хто вырашае перарваць цяжарнасць?**

– У мінулым годзе ў нашай бальніцы адказныя асобы разглядалі варыянты кансультавання жанчын, якія вырашаюць перарваць цяжарнасць. Пакуль толькі існуе абавязковая кансультацыя псіхіятра і псіхолага перад тым, як жанчына зробіць свой выбар. Але ўсе разумеюць, што гэтага недастаткова. Каб забяспечыць для нашых жанчын эфектыўнае і поўнае кансультаванне ў такім невялікім горадзе, як Смаргонь, патрэбны сродкі і час.

**– Што б вы параілі жанчынам, якія стаяць перад выбарам і не ведаюць, што рабіць: або захаваць жыццё, або перарваць цяжарнасць?**

– Дарагія жанчыны! Вы цудоўныя ва ўсіх сваіх праявах. Вы створаныя для таго, каб даць і працягваць жыццё на Зямлі. Ніколі нічога не бойцеся, верце ў сябе, верце ўсім сэрцам, што ў мацярынстве няма нічога цяжкага і сумнага. Мацярынства – гэта радасць, якая напаўняе вас кожны дзень, праз усе цяжкасці, стомленасць і безвыходнасць. Вашы дзеці – гэта тыя людзі на Зямлі, якія будуць любіць вас і шчыра маліцца, незалежнага ад таго, спатыкняцеся вы ці не. Прыгожая, разумная, таленавітая вы ў вачах іншых ці не. Яны будуць любіць вас заўсёды!!! Усміхаючыся або плачучы, радуючы вас ці засмучаючы, яны ва ўсім сваім існаванні праяўляюць любоў да вас.

Адкіньце страх, боязь, неразуменне, вазьміце ў свае залатыя, матчыны добрыя рукі адказнасць за жыццё вашага дзіцяці. Нават калі ўвесь свет адвернецца ад вас, ЗАХАВАЙЦЕ СВАЁ ДЗІЦЯ, і Бог дабраславіць Вас! Вы жанчыны, вы душа нашага чалавецтва!

*Гутарыла*
*Ірына Радзевіч*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Праклён

Царква стаяла ў вёсцы з даўніх часоў. Ніхто ўжо не памятаў, калі яна была пабудаваная, бо самыя старэйшыя жыхары вёскі памяталі, што ў іх дзяцінстве яна ўжо стаяла.

Жылі ў вёсцы і наваколлі праваслаўныя і каталікі заўсёды побач, асабліва ніколі не канфліктавалі. Ну , бывала вядома, недзе падчас гутарак, асабліва пры чарцы, і паспрачаюцца, чыя вера больш правільная, але далей за пабытавыя гэтыя спрэчкі не выходзілі.

Перасварыць сялян не змаглі нават улады, якія за апошнія сто гадоў мяняліся тут досыць часта і больш падтрымлівалі то адну, то іншую канфесію.

Але адгрымела страшная вайна, і на гэтыя землі прыйшла новая ўлада, якой вера ў Бога наогул не была патрэбная. Больш за тое, гэтая ўлада стала зацята змагацца з верай, прычым незалежна ад таго, праваслаўнай яна была, каталіцкай, або якой іншай.

Цярпелі ў гэтым змаганні з верай не толькі людзі, але і святыні. Шмат у тыя гады на нашых землях было закрыта цэркваў і касцёлаў, частка якіх, на жаль, была разбурана.

І вось дайшла чарга і да вясковай царквы. Яе гвалтам забралі ў вернікаў і зрабілі з яе зернесховішча. Будынкаў, вядома, хапіла б для гэтага і без храмаў, не столькі і шмат было хлеба ў беднай краіне, але такая тады палітыка была ў савецкага кіраўніцтва – хуткімі тэмпамі пабудаваць камунізм. І, відаць, нiяк немагчыма яго было пабудаваць, каб не пер態тварыць святыні ў склады, клубы, канюшні, а то і зусім іх разбурыць.

У вясковай царкве паламалі і вынеслі з яе ўсё як убранства, алтар, іконы, і сталі сыпаць тут збожжа. Але вось бяда – людзі ж будавалі будынак не для гэтага! Таму ў храм не маглі заехаць машыны, якія паступова сталі выцясняць коней. Вось кіраўнік калгаса Іван Кузьміч і вырашыў прасекчы ў бакавой сцяне новыя шырокія дзверы, каб сюды свабодна магла заехаць і развярнуцца машына.



Вырашыць то ён вырашыў, а вось знайсці ахвотнага гэта зрабіць аказалася справай няпростай. Узяцца за гэту працу адмаўляліся нават католікі, не кажучы ўжо пра праваслаўных. «Месца святое, нашы бацькі і дзяды тут маліліся, нельга яго чапаць, бо Бог потым пакарае», – казалі вяскоўцы. Не дапамагалі ні ўгаворы старшыні, ні пагрозы, ні абяцанні добра заплаціць за гэту працу. Вернікі ўпарта адмаўляліся.

Але нарэшце ўсё ж такі чалавек знайшоўся. Жыў ён са сваёй сям'ёй у суседняй вёсцы, у школе. Яго жонка была настаўніцай у гэтай школе, якую прыслалі сюды з усходу, як казалі тутэйшыя жыхары, каб вучыць дзяцей чытаць і пісаць, бо чалавек няграматны і палітычна непадкаваны пабудаваць камунізм, вядома, не мог.

Вось гэты Пецька і ўзяўся прасячы дзверы.

– А што, за пару дзён зраблю гэту працу, тым больш, што старшыня абяцаў нядрэнна разлічыцца за гэту працу, – казаў ён жонцы Ніне, – а што мясцовыя тут пужаюць нейкай карай Божай, дык глупства гэта ўсё. Ты ж і сама дзяцей вучыш, што ніякага Бога няма. Перажыткі гэта мінулага, якія белапалякі за дваццаць гадоў убілі тутэйшаму люду ў галовы.

– Вядома ж, так, – адказала жонка, – быў бы той Бог, не дапусціў бы такой страшнай вайны, якую мы з табой перажылі. Вось і бацькі нашы з яе не вярнуліся, ды і мы дзецьмі нацярпеліся. Якая ж тут справядлівасць!

Назаўтра зранку Пеця настрыў сякеру, узяў іншы патрэбны інструмент і пайшоў у суседнюю вёску.

Праз некаторы час жыхары вёскі пачулі звонкія ўдары сякеры, якая ўгрызалася ў моцную сцяну храма. Трэба было прасеч сцяну, каб потым у яе можна было ўставіць пілу.

Непадалёк ад храма стаялі вяскоўцы, якія чакалі нараду ад брыгадзіра. Яны напаўголаса перагаворваліся, пазіраючы на Пецяву работу, успаміналі пра Божую кару. Праўда, уголас ніхто не абураўся: за дваццаць гадоў новая ўлада прывучыла людзей баяцца.

Але вось на працу ішла адна старая жанчына, якую ў вёсцы празвалі Варонай. Ніхто ўжо і не памятаў, якое было яе сапраўднае імя: Варона і Варона. Жыла яна адна, жыла бедна ў параўнанні з астатнімі вяскоўцамі, якія таксама ў тыя гады не шыкавалі. Любіла вырошчваць кветкі і шкадавала бадзяжных катоў, якіх па магчымасці падкармлівала. Людзі, ведаючы яе гэту слабасць, гэтым карысталіся, падкідваючы катоў з суседніх вёсак. Варона іх кляла, на чым свет стаіць, магчыма гэтым і заслужыла сваю мянушку.

І вось убачыла гэта кабета, як Пецька сцяну сячэ ў царкве, і стала крычаць на ўсю вёску:

– Што ж ты робіш, нячыстая ты сіла?! Каб твае мяса так пасеклі, як ты гэту царкву сячэш.

– Супакойся, карга старая, – азваўся Пеця, – не дарэмна цябе Воронай празвалі, каркаеш тут! – і далей працягваў сваю справу.

Сапраўды, за пару дзён Пеця справіўся са сваёй працай, сталяры паставілі новыя шырокія дзверы, і царква ператварылася ў свіран.

Прайшло ўжо амаль два гады, як Пеця прасек гэтыя дзверы. У вёсцы спачатку гэта горача абмяркоўвалі, але час ішоў, і пра гэта сталі забывацца. Краіна рыхтавалася сустрэць пяцідзесяцігадовы юбілей Вялікага Кастрычніка, як называлася цяпер галоўнае свята краіны.

Але выпадак, які адбыўся ў адзін са жнівеньскіх дзён, прымусіў вяскоўцаў успомніць падзеі двухгадовай даўніны.

У той самай вёсцы, дзе жыў Пеця з сям'ёй, жыў Фрэдзік, вядомы на ўсю акругу п'яніца. А трэба згадаць, што пілі тады на вёсках яшчэ не так шмат, як зараз, і гэтага Фрэдзю ведала ўся ваколіца.

Прачнуўшыся вельмі рана ад моцнага галаўнога болю, Фрэдзік стаў думаць, дзе ж яму пахмяліцца. Калі жонка выйшла даіць карову, ён выцягнуў рубель з яе кашалька і пабег да Васіля, у якога ў любы час можна было купіць добрай самагонкі.

Прылажыўшыся да пляшкі, Фрэдзік прагна адпіў з яе палову, і пашыбаваў дадому. Якраз па дарозе яму сустрэўся Пеця, які ішоў у бок сваёй хаты.

– Ну што, алкаш, ужо зранку вочы заліваеш, – падкалоў ён Фрэдзіка.

– Маўчы, гад, не твая сабачая справа, – агрызнуўся той, - ідзі сваёй дарогай, я не сяку цэркваў, як ты.

Пеця плюнуў і пайшоў да сваёй хаты. А Фрэдзік, дапіўшы гарэлку, пачаў ганяць сваю сям'ю, што было справай звычайнай.

Яго спрабавала супакоіць суседка Марыля, але п'яніца кінуўся і на яе.

– Зараз і ты атрымаеш у мяне, – закрычаў Фрэдзя і схапіў сякеру, што тарчэла ў калодцы, – а дзе гэны, што цэрквы сячэ, ён мяне яшчэ будзе папракаць. Зараз самога пасяку!

Пачуўшы гэта, Марыля праз гароды кінулася да школы, дзе жыў Пеця з жонкай і маленькім сынам. Ніна з дзіцём яшчэ спалі, калі іх разбудзіла Марыля, і яны ўсе разам выскачылі праз акно.

Пецька ж разам са сваёй цешчай сядзеў у гэты час у кухні, калі туды ўляцеў Фрэдзік з шалёнымі вачыма.

– Заб'ю! – зароў ён і стаў секчы Пецьку. Пецька спрабаваў адбівацца, але, атрымаўшы моцны ўдар сякерай у галаву, абмяк. Яго цешча ад стаху залезла пад ложак і адтуль спалохана пазірала, як п'яны Фрэдзя сек літаральна на кавалкі яе зяця.

Пабегшы дадому, той абліў хату газай і хацеў падпаліць яе разам з сабой, але запалкі не загараліся, бо пушка намокла ад крыві.

У вёску ў гэты час ужо прыехала міліцыя, але зайсці ў хату да п'яніцы, які працягваў бушаваць, баяліся.

Урэшце Фрэдзік перарэзаў сабе вену. Да бальніцы яго не давезлі, ён памёр па дарозе.

Пецява сям'я адразу пасля трагедыі з'ехала з вёскі.

Прайшло ўжо паўстагоддзя з таго выпадку. Храм у вёсцы быў адноўлены, у ім праходзяць богаслужэнні. А пра гэты праклён, які збыўся, людзі памятаюць і зараз, распавядаюць сваім дзецям і ўнукам, кажучы: «Каб не было дрэнна ў жыцці, ніколі не трэба чапаць Божых храмаў».

***Зміцер Лупач,***
*поводле рэальных падзей*

# Як лепш сказаць па-беларуску:
# *жыву ў пасёлку гарадского тыпу або жыву ў мястэчку?*

**У сучаснай маўленчай практыцы для абазначэння статусу населенага пункта, большага за вёску, але меншага за горад, выкарыстоўваецца перанятае з рускай мовы спалучэнне *пасёлак гарадского тыпу*.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Такіх месцаў нямала і на Віцебшчыне. Напрыклад, Шуміліна, Ушачы, Падсвілле, Варапаева і інш. Пры гэтым апошнія гады ўсё часцей і ў вусным маўленні, і ў пісьмовай практыцы дасведчаныя носьбіты нашай мовы, журналісты карыстаюцца старым і прыгожым беларускім словам **мястэчка**, якое надзвычай дакладна адлюстроўвае сутнасць паняцця, выразна характарызуе названы тып населеных пунктаў. Назоўнік **мястэчка** ўтвораны ад агульнаславянскага слова *места – "горад"*, гэта значыць, населены пункт, які мае прыметы горада, характэрную для яго інфраструктуру ці прынамсі нейкія яе элементы. І сёння нам наўрад ці варта звяртаць увагу, напрыклад, на тое, што ў асноўным пакуль "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" (ТСБМ, Мінск, 1977 – 1984) слова мястэчка падаецца з паметай "уст." Зразумела, мова з часу выхаду слоўніка ў значнай ступені зведала змены і ў лексічным складзе. І тое, што ў савецкую пару ўспрымалася як састарэлае (бо адрознівалася ад рускага эквівалента), цяпер абсалютна арганічна ўпісваецца ў нашу маўленчую традыцыю. Звернемся хаця б да Вікіпедыі. Тут назоўнік **мястэчка** заняў сваё месца. Працытуем: *"Шуміліна – **мястэчка** ў Беларусі, непадалёк ад ракі Чарніцы. Адміністрацыйны цэнтр Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці..."* Таксама чынам Вікіпедыя падае і інфармацыю пра іншыя падобныя населеныя пункты. Дарэчы, і акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012) ужо фіксуе назоўнік **мястэчка** (с. 407), прызнаючы тым самым за ім статус літаратурнай лексемы.

Калі і надалей трымацца не зусім дарэчнага спалучэння *пасёлак гарадского тыпу*, то непазбежна ўзнікае і яшчэ адна праблема: як называць жыхароў гэтага населенага пункта? Гартыпапасялковец, проста гарпасялковец? А вось ад назоўніка **мястэчка** ўтвораны і з поспехам выкарыстоўваецца ў жывой моўнай практыцы назоўнік **местачковец** – гэта значыць, жыхар *мястэчка*. Прафесар П. Сцяцко – выдатны знаўца роднай мовы – гаворыць, што местачковец – "натуральнае, свойскае слова. А застарэлым яго хацелі зрабіць бальшавікі, імкнучыся пазбавіць беларусаў, як і іншыя народы СССР, усяго адметнага, свайго, роднага, каб зляпіць з іх "адзіны савецкі народ" (П. Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002. – с.130).

Такім чынам, жыхары Шуміліна, Ушачаў, Падсвілля, Варапаева ды іншых падобных даволі буйных населеных пунктаў могуць смела сказаць, што яны жывуць у *мястэчку*, а не ў пасёлку гарадского тыпу. Ад гэтага казённага, фармальнага спалучэння варта пазбаўляцца ў нашай мілагучнай мове.

# З Тэхаса – у Беларусь


Габрыэла разам з беларускім хлопчыкам з салезіянскай супольнасці ў Дзятлаве падчас свята бласлаўлёнай Александрыны Марыі да Коста

**Габрыэла Прыэта (Gabrielle Prieto) з амерыканскага горада Сан-Антоніа, штат Тэхас, прыехала ў Беларусь, каб палепшыць свае веды рускай мовы, а таксама бліжэй пазнаёміцца з салезіянскай супольнасцю Беларусі.**

**У гэтым інтэрв'ю дзяўчына падзялілася з "Каталіцкім Веснікам" сваімі ўражаннямі пра нашую краіну.**

**– Габрыэла, распавядзі крыху пра сябе?**

– Я нарадзілася ў горадзе Харлінген, штат Тэхас, але выхоўвалася і вырасла ў Сан-Антоніа – гэта горад у цэнтральнай частцы Тэхаса. Мяне выхавалі ў традыцыйнай каталіцкай іспанскай сям'і. Мае бацькі – людзі пабожныя, якія сур'ёзна ставяцца да сваёй веры, да Бога, а таксама прымаюць актыўны ўдзел у жыцці Касцёла. Мой старэйшы брат, які ўжо жанаты, вельмі любіць чытаць тэалагічныя дакументы.

Нягледзячы на тое, што я была выхавана каталічкай, на самай справе жыць згодна са сваёй верай я пачала толькі пасля вучобы ў Расіі. Да гэтага моманту я паспела пакінуць Касцёл, адысці ад яго. Я была вельмі зраненая і пакрыўджаная, але Бог паклікаў мяне назад. На працягу многіх гадоў Ён стукаўся ў мае дзверы, чакаючы таго моманту, калі я расплюшчу свае вочы і адкрыю сэрца на Яго праўду, праўду пра тое, што Ён плача з намі, калі мы плачам, што Яго сэрца разрываецца ад болю, калі мы перажываем боль, што Ён сядзіць і цярпліва чакае, калі мы дазволім Яму вылечыць нас. Ён – сапраўдны Бог Міласэрнасці і бязмежнай Любові.

**– Ты згадала, што навучалася ў Расіі?**

– Так. Але спачатку я вучылася ва ўніверсітэце Тэхаса, а пасля адзін семестр у Маскоўскім дзяржаўным універсітэце вывучала рускую мову.

**– А якое служэнне ты нясеш у Касцёле ў Амерыцы?**

– Я – валанцёр VIDES. VIDES – гэта салезіянская валанцёрская арганізацыя. VIDES – гэта "Volunteers in Development, Education i Solidarity" ("Валанцёры ў развіцці адукацыі і салідарнасці"). Валанцёры працуюць у шпіталях, школах, сацыяльных установах, парафіяльных цэнтрах, дзе дапамагаюць сёстрам-салезіянкам, якія там вядуць сваю дзейнасць. У Сан-Антоніа ёсць таксама салезіянскія школы, але там я яшчэ не працавала. У мяне была магчымасць арганізаваць біблійную школу для дзяцей, якія былі знойдзеныя падчас пераходу праз граніцу без апекі дарослых. Гэтых дзяцей аддаюць пад дзяржаўную апеку, а сёстры-салезіянкі прыходзяць, каб з імі правесці час, пагуляць, і праз гэта паказаць ім, што яны не самотныя ў гэтым свеце.

Часта здараецца так, што дзеці застаюцца адны, таму што іх бацькі паміраюць падчас такіх пераходаў, а бывае, іх пасылаюць адных прайсці сотні кіламетраў, таму што маюць надзею, што дзеці знойдуць лепшае жыццё ў Амерыцы. На жаль, усе жахлівыя рэчы, сведкамі якіх яны часта становяцца, пакідаюць іх цалкам спустошанымі. З'яўляючыся валанцёрамі VIDES, мы можам прыходзіць да гэтых дзяцей і расказваць ім пра Божую Любоў і Міласэрнасць. Мы гуляем з імі, смяёмся, а таксама слухаем іх гісторыі. У такія моманты яны могуць забыцца пра свой боль і быць звычайнымі дзецьмі.

**– Якім чынам ты патрапіла ў Беларусь?**

– Я звольнілася з працы і далучылася да VIDES, маючы надзею на тое, што змагу перажываць канец Года Міласэрнасці ў служэнні іншым, пакладаючы надзею толькі на Бога. Гэтае рашэнне было адным з найлепшых у маім жыцці.

Калі дасылаеш свае дакументы ў VIDES, то трэба напісаць, якія мовы ведаеш альбо вывучаў. І мой дырэктар, і я сама хацела паехаць у рускамоўную краіну, таму што я вывучала рускую мову. Яна звязалася з сёстрамі, якія тут працуюць, і тыя згадзіліся мяне прыняць! Я была вельмі шчаслівая, што ёсць такая цудоўная магчымасць падцягнуць свае веды па рускай мове менавіта тут, у Беларусі, а таксама больш даведацца пра салезіянскую супольнасць гэтай краіны.

**– З якой мэтай ты ехала сюды?**

– Я прыехала, бо веру, што Бог хацеў, каб я зрабіла крок веры, цалкам даверылася Яму і пайшла туды, дзе нікога не ведаю, каб разам з гэтымі людзьмі перажываць і святкаваць паўсюдnасць Яго Касцёла. У адной песні, якую я слухала раней, ёсць такія радкі: "Дух Святы, вядзі мяне туды, дзе давер мой будзе неабмежаваны. Дапамажы хадзіць па вадзе, куды б ты мяне ні паклікаў". Ён паклікаў мяне ў Беларусь, і вось я прыехала. Гэта было радыкальна. Але і хрысціянства з'яўляецца радыкальным. Я разлічвала на тое, што прыеду ў маленькую супольнасць, а знайшла штосьці зусім іншае.

**– Гэта вельмі адважны крок з твайго боку...**

– Калі сапраўды, то я крыху нервавалася і баялася ехаць у Беларусь. На жаль, па прычыне палітычнай сітуацыі, звязанай з Еўропай і Злучанымі Штатамі, мае веды пра Беларусь былі дастаткова мізэрнымі. Шчыра кажучы, я лічыла, што ўбачу тут каталіцкія супольнасці, якія толькі распачынаюць сваю дзейнасць. Але замест гэтага я знайшла цудоўныя салезіянскія супольнасці, моцныя ў сваёй веры, якія дапамагаюць сем'ям станавіцца мацнейшымі. Дзеці хочуць прыходзіць у Салезіянскі цэнтр, араторый, гэта асабліва важна!

Вера тут вельмі моцная. Я думаю, што не кожны з вас усведамляе да канца, наколькі вам пашанцавала. Бог блаславіў вас такімі рознымі спосабамі.

**– А што асабліва спадабалася ў Беларусі?**

– Мне падабаецца ўсё ў вашай краіне (нягледзячы на тое, што мне не хапае мексіканскай кухні)! Надвор'е і прырода для мяне надзвычай разнастайныя, а людзі – вельмі добрыя і спагадлівыя. Гэта ўсё намнога больш за тое, на што я магла толькі спадзявацца.

**– Дзе ты ўжо паспела пабываць?**

– Я была ў Мінску, мне ён вельмі спадабаўся. Я таксама прысутнічала на ўрачыстасці святой Александрыны Марыі да Коста ў Дзятлаве. Гэта было вельмі прыгожа і весела. Я жыву ў Смаргоні, паляпшаю свае веды рускай мовы і проста атрымліваю вялікае задавальненне, калі пазнаю мясцовых людзей.

**– Ці збіраешся ты яшчэ раз прыехаць у Беларусь?**

– Так, я вельмі спадзяюся, што гэта не апошні мой прыезд!

*Гутарыла Ірына Радзевіч*
*Пераклад Яўгеніі Раткевіч*


У смаргонскім касцёле св. Міхала Арханёла на малітве


У Цэнтральным парку Смаргоні каля помніка "Мядзведжай акадэміі"

# Што Вы ведаеце пра грэка-католікаў?

**420 гадоў назад у Брэсце была падпісана Брэсцкая ўнія. А што Вы ведаеце пра грэка-католікаў?**

*Ірына Радзевіч*





**Алеся Козіч:**

– Ведаю, што кіраўнік грэка-католікоў – Папа Рымскі, але абрады ў іх падобныя да праваслаўных. Даволі шмат маю знаёмых і сяброў, якія належаць да грэка-каталіцкай канфесіі. Таксама не раз здаралася бываць на ўніяцкіх набажэнствах.

**Людміла Бурлевіч:**

– Калі я вучылася ў Каталіцкім люблінскім універсітэце, то сябравала са многімі грэка-католікамі. Часам хадзіла да іх на службу. Верым мы ў адно і тое ж і падпарадкоўваемся Папу Рымскаму, але літургія іншая. Ведаю таксама, што святары-грэка-католікі могуць ажаніцца.





**Андрэй Нарэль:**

– Пра грэка-католікаў ведаю з гісторыі, бо калісьці цікавіўся гэтай тэмай. Я думаю, што ўнія – гэта палітычны крок. Яго мэта – перацягнуць насельніцтва да каталіцызму і распаўсюдзіць каталіцкую веру на тых тэрыторыях, якія гістарычна былі праваслаўнымі. Ніякага місіянерскага дзеяння ў гэтым кроку я не бачу. Любая змена ва ўкладзе, тым больш, які сфарміраваўся на працягу не аднаго стагоддзя, – гэта балюча. Новыя парадкі, новыя патрабаванні… З іншага боку, уніяцтва – гэта тое, што дапамагло захаваць мову і культуру беларусаў і не дазволіла пашырацца працэсам паланізацыі. А калі падагульніць, то няма значэння, уніят ты, католік ці праваслаўны. Галоўнае, што ты – хрысціянін.

**Дзяніс Філіпчык:**



– Пра грэка-католікоў ведаю дастаткова, бо скончыў гістарычны факультэт БДУ. Найбольш цікавы для мяне сюжэт, звязаны з уніяцкай царквой, – гэта скасаванне ўніі. Часам падручнікі падаюць гэты працэс як ледзь не імгненны. А на самай справе існавалі дзесяцігоддзямі вёскі, дзе жылі так званыя "ўпартыя». Яны не прынялі вынікі Полацкага царкоўнага сабору і працягвалі маліцца па-старому, захоўвалі ранейшыя звычаі. І доўжылася гэта амаль да пачатку XX ст.

**Наталля Кувалдзіна:**



– Пра ўнію ўпершыню пачула яшчэ на ўроках гісторыі падчас навучання ў школе. Унія, падпісаная ў 1596 годзе, вырашала пытанне аб'яднання нацыі на тэрыторыі Беларусі для захавання традыцый, культуры і мовы. Гэта быў час, калі большасць насельніцтва тагачасных тэрыторый Беларусі належала да грэка-каталіцкай канфесіі. Увогуле, пра грэка-католікаў ведаю няшмат і хацелася б даведацца больш.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by

**Што Вы ведаеце пра грэка-католікаў?**

- Я маю сяброў грэка-католікаў; 59 галасоў
- Некалькі разоў/адзін раз быў на ўніяцкім набажэнстве; 58 галасоў
- Пра ўніятаў ведаю мала, але хацеў бы ведаць больш; 42 галасы
- Я сам грэка-католік; 40 галасоў
- Ведаю толькі з кніжак пра Унію; 19 галасоў
- Нічога не ведаю пра Унію; 12 галасоў
- Іншы адказ у каментарыях у сац.сетках. 4 галасы

**Усяго: 234 галасы**



# Дарагі мой дзядуля

*Мне трэба тут пасумаваць,*
*На магільніку шматгадовым.*
*Ніхто не патрывожыць словам...*
*Мне трэба тут пасумаваць...*

**Стаю ля помніка. Угледжаюся ў фотаздымак. Да болю знаёмыя рысы твару. Такім я запомніла цябе, мой дарагі дзядуля: уважлівым, спакойным, добразычлівым. Цябе не стала ў 1990-ым, на восемдзясят сёмым годзе жыцця. Віною таму – трагічны выпадак.**

**Марыя Ючкавіч**, *агр. Сітцы*

*Вось ён, выпадак нешчаслівы...*
*Вось ён, збыўся той страшны сон:*
*Мой дзядуля, сявец сваёй нівы,*
*Аддаў ніве апошні паклон.*

*Трактарыст, супыні грукатанне!*
*Азірніся: ляжыць чалавек!*
*Як жа гэта? – застыла пытанне,*
*А дзядулі не стала навек...*

Мой мілы дзядуля Юзік! Ты не вельмі ахвотна гаварыў пра вайну. І я цябе разумела. Гэта цяжкія для цябе ўспаміны. Смерць любай жонкі Мар'яны ад тыфу ў 1944-ым, твой нялёгкі ваенны шлях ад Бабруйска да Польшчы і Германіі, пастаянны душэўны клопат: як там дачушка, пакінутая пры сваяках, без маці? Я не хацела распытваць пра падрабязнасці, каб лішні раз не трывожыць тваю збалелую душу.

Затое хвіліны радасці ад нашага сяброўства, ад нашага ўзаемаразумення засталіся ў маёй памяці на ўсё жыццё. Дарагі мой дзядуля! Ты быў для мяне ўзорам у многім. Напрыклад, валоданне мовамі – беларускай, рускай, польскай – у цябе было выключнае. Я здзіўляюся, чытаючы ў тваім ваенным білеце ў графе "адукацыя" словы "малограмотный, самоучка". Ты ж бездакорна пісаў на трох мовах! Шмат чытаў, увесь вольны час аддаваў чытанню. Акрамя мастацкай літаратуры, цікавіўся падручнікамі па гісторыі і геаграфіі, якія я прыносіла табе са школы падчас сваёй працы настаўніцай. Яшчэ і зараз у тваім старэнькім чамадане беражліва захоўваецца карта свету, якую ты вельмі любіў разглядаць, ведаў сталіцы ўсіх дзяржаў.

Мой мілы дзядулька, я светла ўспамінаю, як ты ганарыўся мною, адзінай унучкай. Ганарыўся тым, што я дасылала свае вершы ў раёнку, калі яшчэ вучылася ў школе, ганарыўся тым, што паступіла ў БДУ і стала настаўніцай. А чарнавік майго выступлення на жнівеньскай нарадзе ад імя маладых настаўнікаў, акуратна складзены, і цяпер захоўваецца ў тваім чамадане побач з юбілейнымі ўзнагародамі – медалямі да 20-ці, 25-ці і 30- годдзя Перамогі ў вайне 1941-1945 гг.

А я ганаруся табою, мой дарагі дзядуля! Ганаруся тым, што ты быў сапраўдным. Гэта так важна ў жыцці – быць сапраўдным! Сапраўдным чалавекам, сапраўдным бацьком, сапраўдным бацькам, які ўсё сваё жыццё прысвяціў адзінай дачушцы Зоні. Не шукаў асабістага шчасця, хоць пасля вайны было шмат адзінокіх жанчын. Сапраўдным працаўніком, узорным брыгадзірам, які і падлікі вёў не горш, чым ведаў мовы. Сапраўдным сябрам, з якім можна было дзяліцца сваімі сакрэтамі. Сапраўдным выхавальнікам для сваіх праўнучак Надзеі і Аксаны, з якімі бавіўся заўсёды, чытаў ім казкі, расказваў цікавыя гісторыі. Памятаю, што любімую казку Аксаны "Снежная каралева" ты мог чытаць столькі разоў, колькі яна прасіла. І ніколі не падаваў выгляду, што табе нецікава і не спасылаўся на больш важныя справы. А розных гаспадарчых спраў у вёсцы хапала заўсёды. Ніколі ты не сядзеў склаўшы рукі. Ні летам, у гарачую пару, ні нават зімою, калі вазіў дровы на санках па замёрзлай рацэ...

Мой дарагі дзядуля! Я толькі зараз, у пажылым узросце, па-сапраўднаму зразумела, якім ты быў шчырым вернікам. Хадзіў пехатою ў касцёл у Ваўкалату. Зімою, калі замярзалі балота і рака, хадзіў напрасткі. Дома маліўся ў адзіноце, не напаказ. У нашай сям'і беражліва захоўваюцца твае малітоўнікі, а таксама тэксты духоўных спеваў, перапісаныя ад рукі роўным, разборлівым почыркам...

Успаміны, малітвы за сваіх дарагіх людзей, якія адышлі ў вечнасць, – гэта наша духоўная повязь часоў і пакаленняў. Усе мы – часовыя пілігрымы на гэтай зямлі, таму так важна памятаць пра тое, які след пакінем мы ў душах нашых родных, сяброў, знаёмых.



*Святлом любові зноў азорыць памяць*
*Зямныя незабыўныя сляды.*
*І кружыць, кружыць лісцевая замець...*
*Дзень памінання продкаў. Дзень святы.*

# Каляндар на снежань



У снежні Касцёл перажывае перыяд Адвэнту – радаснага чакання Божага Нараджэння.

**6 снежня – успамін святога Мікалая.**

Святы Мікалай жыў у ІІІ ст. у Малой Азіі. Быў біскупам Міры (сучасная Турцыя). Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Паводле падання, аднойчы Мікалай паціху падкінуў грошы тром маладым дзяўчынам, якіх збяднелы бацька хацеў аддаць у публічны дом, каб яны не памерлі з голаду. Дзякуючы дапамозе біскупа дзяўчынам удалося захаваць цнатлівасць і добра выйсці замуж.

Мікалай вызваліў трох юнакоў, якіх гаспадар заезду, дзе тыя спыніліся, хацеў забіць і закатаць у бочку. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, каторыя гінулі ў моры. Пасля смерці Мікалая яго рэліквіі захоўваліся ў Міры Лікійскай, пакуль у 1087 г. не былі выкрадзеныя італьянскімі купцамі і вывезеныя ў г. Бары на поўдні Італіі. Святы Мікалай з'яўляецца адным з найбольш папулярных святых на Захадзе, а на Усходзе яго ўшаноўваюць другім пасля Багародзіцы. Мікалая часта называюць Цудатворцам і лічаць вялікім сябрам дзяцей, апекуном шчаслівых сужэнстваў, вязняў і маракоў. Святы Мікалай з'яўляецца апекуном Расіі, а на Захадзе ён стаў правобразам славутага Санта-Клаўса. У многіх каталіцкіх краінах існуе звычай у гэты дзень рабіць дзецям падарункі.

**8 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята Беззаганнага Зачацця адзначалася на Усходзе ўжо ў VIII стагоддзі. У IX стагоддзі перайшло і на Захад. На беларускай зямлі гэтае свята пачало адзначацца з XIV стагоддзя. 8 снежня 1854 года Папа Пій IX сцісла акрэсліў і падаў праўду аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі як дагмат каталіцкай веры. Гэтая ўрачыстасць лічыцца абавязковай.

**25 снежня – Божае Нараджэнне.**

Вігілійную вячэру, якая распачынаецца пасля дзялення аплаткай, называюць куццёю (ад назвы крупяной кашы – куцці, якая абавязкова павінна быць у гэты вечар на стале). На стол ставяць толькі посныя стравы. У гэты дзень з радасцю прымаюць нечаканых гасцей. Асаблівую атмасферу вечара ствараюць і калядкі (песні на Божае Нараджэнне), якія можна таксама спяваць усёй сям'ёй. Кульмінацыяй вечара становіцца святая Імша ў вігілію Божага Нараджэння. У само свята, 25 снежня, уся сям'я, родныя і блізкія таксама збіраюцца за супольным сталом. Але ж галоўнае – загадзя паклапаціцца пра стан сваёй душы і быць духоўна падрыхтаваным да святаў. З гэтай мэтай у перыяд Адвэнту Касцёл заахвочвае браць пастановы, у парафіях таксама адбываюцца адвэнтовыя рэкалекцыі з магчымасцю прыступіць да сакраманту споведзі.

**26 снежня – успамін святога Стэфана, першамучаніка.**

Святы Стэфан быў адным з сямі памочнікаў Апосталаў у Ерусалімскім Касцёле. Паводле Дзеяў Апостальскіх, "поўны ласкі і моцы Духа Святога" ён абвяшчаў Добрую Навіну з мудрасцю, якой ніхто не мог супрацьстаяць. Першы мучанік, сведчачы сваёй смерцю аб праўдзівасці пасланніцтва Хрыста і Яго навукі, ажыццявіў ідэал дасканалага наследавання Пана. Існуе вялікае падабенства паміж смерцю Пана Езуса і святога Стэфана: фальшывыя сведкі, смерць за горадам, адданне Езуса і Стэфана Богу Айцу, прабачэнне пераследавальнікам. Культ гэтага святога бярэ свой пачатак з IV стагоддзя.

**27 снежня – дзень святога Яна, апостала.**

Рыбак, ён быў улюбёным вучнем Езуса. Стаў сведкам перамянення Пана і Яго малітвы ў Садзе Аліўным. Падчас Апошняй Вячэры туліўся да грудзей Збаўцы. Паміраючы на крыжы, Пан Езус аддаў яму ў апеку сваю Маці. Ён – адзіны з Апосталаў, хто памёр сваёй смерцю каля 100-га г. Ян З'яўляецца аўтарам Евангелля, трох Лістоў, а таксама Апакаліпсіса. Сваім Евангелем святы Ян дапаўняе іншыя і найбольш глыбока перадае Божыя таямніцы. Ва Усходнім Касцёле св. Яну надалі тытул Тэолага. У хрысціянскай іканаграфіі сімвалам св. Яна з'яўляецца арол. Адно з паданняў кажа, што св. апостал Ян выпіў атручанае віно, якое, аднак, не зашкодзіла. На ўспамін гэтага цуду ў касцёлах асвячаюць віно.

**28 снежня – успамін святых немаўлят-мучанікаў.**

Урачыстаць гэтая адзначаецца ў гонар нявінных дзяцей, забітых у Бэтлееме па загадзе Ірада, яўрэйскага караля. Здарэнне апісана ў Евангеллі (Мц 2, 13- 18).

**30 снежня – Свята Святой Сям'і.**

Святая Сям'я з'яўляецца найдасканалейшай сям'ёй і прыкладам для нас, нашых сем'яў. Св. Юзаф – выдатны прыклад для кожнага бацькі: працавіты, разважлівы, заклапочаны домам. Найсвяцейшая Панна Марыя з'яўляецца ідэалам найлепшай маці. А Езус – непараўнальны Сын, Які, будучы Богам, быў паслухмяны Бацькам і шанаваў кожнае Іх слова.

*Падрыхтавала Марына Ткач*

## Рэдакцыя дзякуе!

Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Францішка Звяжынская** *(Малэйкаўшчына)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Яніна Дулінец** *(Радзюкі)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Парфяновіч Т.Ф.** *(Браслаў)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Парфяновіч А.Ю.** *(Браслаў)*, **удзельнікі руху "Маці ў малітве"** *(Раготна)*, **Тэрэса Зяновіч** *(Ліда)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Кавалеўская** *(Докшыцы)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Ганна Жылевіч** *(Каменчане)*, **Святлана Грышкевіч** *(Параф'янава)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**2 снежня** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** *(Віцебск)*, **кс. Яўген Учкуроніс** *(Дзярэчын)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Аляксандр Барыла** *(Вілейка)*, **кс. Раман Ялоўчык** *(Кемелішкі)*, **кс. Леон Лішык** *(Волпа)*;

**4 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Расоны)*;

**6 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Лучай)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **біскуп Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі**, **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **кс. Павел Гедройць** *(Галынка)*, **кс. Рычард-Пётр Перчак** *(Белагруда)*, **кс. Ежы Свіслоцкі**;

**8 снежня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Павел Аляскевіч** *(Суботнікі)*; імяніны адзначае **кс. Артур Вальчкевіч** *(Гродна)*;

**9 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Салабуда** *(Гродна)*; імяніны адзначаюць **кс. Зыгмунт Глэмбоцкі OFMConv**, **кс. Веслаў Даброўскі SDB** *(Навагельня)*;

**10 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Артур Малафей** *(Гродна)*;

**11 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*, імяніны адзначаюць **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*, **кс. Вальдэмар Слота** *(Вялікая Бераставіца)*;

**12 снежня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Ян Балтрукевіч** *(Навагрудак)*, **кс. Андрэй Горбач** *(Астравец)*;

**14 снежня** – імяніны адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**15 снежня** – імяніны адзначае **кс. Валерый Лісоўскі** *(Вярэйкі)*;

**16 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**17 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Павайба** *(Сапоцкін)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Марэк Пасют OFMCap** *(Докшыцы)*;

**21 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Кеўлюк** *(Жалудок)*;

**22 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*, **кс. Зянон Рамейка SCJ** *(Астрыно)*;

**24 снежня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Эйсмант** *(Ваўкавыск)*, **кс. Юрый Жэгарын** *(Навагрудак)*; імяніны адзначаюць **кс. Адам Дынак** *(ВДС, Пінск)*, **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Адам Врубель MSF**;

**25 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**26 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Леанід Мозгель** *(Павяцце)*;

**27 снежня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Слонім)*, **кс. Казімір Вальчык SDB** *(Нестанішкі)*; імяніны адзначае **кс. Ян Балтрукевіч** *(Навагрудак)*;

**29 снежня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Кузюк** *(Грандзічы)*;

**30 снежня** – імяніны адзначаюць **кс. Яўген Барысюк** *(Казловічы)*, **кс. Яўген Учкуроніс** *(Дзярэчын)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*

# Святы, які змусіў імператара заплакаць

## (7 снежня)

**Яны добра ведалі адзін аднаго: біскуп Мілана Амброзій і тагачасны Рымскі імператар Тэадозій. Адзін узначальваў каталіцкую веру ў Мілане, а другі кіраваў дзяржавай, таксама ў Мілане, сваёй сталіцы.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*

Аднойчы, караючы непаслухмяных паўстанцаў адной з правінцый, Тэадозій так разгневаўся, што з выхаваўчага пакарання атрымалася нялюдскае забойства больш як 7 тысяч чалавек. Амброзій ведаў, што сваю душу і свой аўтарытэт імператар не ўратуе без пакуты. Без публічнай пакуты. Тэадозій на заклік Амброзія адгукнуўся і тры месяцы не пераступаў парог храма. А пазней, зламаўшы ўласную гардыню, перад біскупам, у катэдры, "у стагнаннях і слязах" прасіў дапусціць яго да сакрамантаў.

На розных абразах Амброзія не цяжка распазнаць. Апрача атрыбутаў біскупскай улады – мітры і пастарала, – часта можам убачыць вулей з пчоламі або біч у яго руках. З пчоламі звязана гісторыя з дзяцінства, калі на маленькага Амброзія, які спаў, наляцеў і абляпіў яго рой пчол. Паколькі крыўды малому насякомыя не зрабілі, бацька зрабіў вывад, што сын будзе кімсьці незвычайным. Але пчолы і мёд – гэта не толькі знак гэтага здарэння. Будучы біскупам, Амброзій вылучаўся незвычайным красамоўствам і сілай прапаведавання Божага слова. Гэта вынік і старанннай адукацыі, атрыманай ад знакамітых настаўнікаў, і гарачага прагнення абвяшчаць Евангелле. Сучаснікі адзначалі, што, калі Амброзій казаў пра Хрыста, складвалася ўражанне, што ён распальваецца дабялa. А калі казаў пра Святую Багародзіцу, то выдавалася, што на свеце няма больш лагоднага, спакойнага, ціхмянага чалавека. Слухаючы менавіта казанні Амброзія, дар веры атрымаў будучы вялікі настаўнік і багаслоў касцёла св. Аўгустын з Гіпоны. Біч – сімвал не гвалтоўнага характару, а смеласці ў змаганні за прававернасць з вялікай тагачаснай ерассю – арыянствам. Як гэта не дзіўна, у часы Амброзія было больш арыянскіх біскупаў, чым прававерных.

Гісторыя Амброзія – гэта адна з найбольш неверагодных гісторый паклікання да святарства і біскупскага служэння за 2000 гадоў існавання Касцёла. Трэба сабе ўявіць, як амаль што саракагадовы мужчына са знатнага роду, з выдатнай адукацыяй, з досведам працы ў дзяржаўных структурах стаіць на сярэдзіне Міланскай катэдры. Ён не прыйшоў у гэты дзень маліцца, у яго дзяржаўная місія: не дапусціць да кровапраліцця паміж тымі, хто вызнае боскасць Хрыста, і тымі, хто яе адмаўляе (ерась арыянства). Паколькі няма біскупа (ён памёр), вернікі змагаюцца за тое, чый біскуп, прававерны ці арыянскі, зойме пастырскі пасад. І тут у гэтай патавай сітуацыі чуецца крык дзіцяці: "Амброзія на біскупа!" Гэта адразу падхопліваюць усе прысутныя, і на здзіўленне самога Амброзія, ён атрымлівае запрашэнне стаць пастырам Мілана. Усё б было прасцей, але выбранец люду нават не хрысціянін, ён катэхумэн, толькі рыхтуецца да Хросту!




Як паказала жыццё, гэта было адно з найбольш трапных дэмакратычных рашэнняў, якое прынялі жыхары Мілана. Амброзій не толькі стаў біскупам іх горада, але таксама для ўсяго тагачаснага Касцёла стаў светачам і надзеяй. Свае арганізатарскія здольнасці, духоўную энергію, красамоўства ён скіраваў на тое, каб перамагчы ўсялякія падзелы паміж вернікамі. Да сёння існуе перакананне, што мы не арыяне, верым у Хрыста, Сына Божага, толькі дзякуючы Амброзію.

# Беларусь у "святых" гербах: МАЛАДЗЕЧНА

**Яна сустракае кожнага, хто наведвае горад. Тых, хто прыбывае з боку Мінска, цяпер таксама ў манументальнай скульптуры, якая выяўляе і гасціннасць самога горада, і гасціннасць яго нябеснай апякункі.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Росіца*








Маладзечна – гэта беларускі горад майго дзяцінства. Горад, які звязаны з эмоцыямі і перажываннямі падарожжа з Вільні да родных у беларускую вёску на Маладзечанскай зямлі. У савецкія часы на ўездзе ў Маладзечна нас вітаў герб у выглядзе галінкі, трылісніка папараць-кветкі. Як ніяк, а паэтычны беларускі сімвал! Што ён паэтычны і беларускі, я, маленькі хлопчык, абсалютна не ведаў, і было цікава, чаму менавіта галінка і менавіта такая.

Аказалася, што гэты герб я мог бачыць не раней за 1988 г., бо яго зацвердзілі да 600-годдзя горада. Горад хоць і стары, з цікавай багатай гісторыяй, але не меў Магдэбургскага права, а гэта значыць, не мог мець і свайго герба. Аказалася, што трыліснік у задуме аўтара азначае тры напрамкі дарог да трох вялікіх гарадоў – Вільні, Гродна і Мінска. Герб быў арыгінальны, не сустраканы раней, але, на жаль, зроблены насуперак існым геральдычным правілам: нестандартныя форма шчыта, надпіс і дата.

Сённяшні герб Маладзечна існуе ад 1999 г. і прывязаны да папулярнай беларускай геральдычнай традыцыі мець за выяву святога або святую. Святая Багародзіца на гербе намаляваная са старой іконы Пакрова, якая шанавалася ў маладзечанскай праваслаўнай царкве. Пакроў – гэта свята ў гонар Маці Божай, падзяка за яе апеку. На абразах і на гербе Маладзечна Маці Божая на працягнутых руках трымае амафор, частку літургічнага адзення біскупаў у візантыйскай традыцыі.

Амафор – гэта сімвал пастырскай апекі. Сімвал авечкі на плячах, якую шукае і знаходзіць сапраўдны пастыр. Марыя запрашае жыхароў горада і ўсіх гасцей карыстацца яе апекай. Сімвалам гэтага таксама з'яўляецца і яе плашч. Па традыцыі хрысціяне Канстанцінопаля маліліся ў храме, просячы пра ласку ўратавання ад ворагаў. У часе малітвы св. Андрэй і яго вучань убачылі Маці Божую, якая доўга са слязьмі малілася за народ. А пазней ўрачыста зняла пакрывала з галавы і расцягнула над народам. Бачанне аказалася прарочым: ворагі без кровапраліцця адышлі ад горада.

Новы герб так хутка прыжыўся і стаў родным, што да Рэспубліканскіх дажынак 2011 г. з'явілася скульптура Пакрова Багародзіцы, якая сустракае тых, хто вяртаецца дамоў, і тых, хто прыязджае.



**Уезд у горад Маладзечна.** *Фота vandrauniczy.livejournal.com*

## Віншуем!



*19 лістапада ў нашага любімага **пробашча Генадзя Ляўкова** Дзень нараджэння.*

*Мы сардэчна віншуем ксяндза Генадзя, нізка кланяемся і дзякуем яму за чалавечнасць, за адкрытасць і вялікую аддынасць святой справе. Няхай добры Бог дапамагае Вам выканаць мары і задумы, а Маці Божая хай заўсёды атуляе Вас сваёй любоўю і апекай! Мы заўсёды будзем памятаць пра Вас у сваіх малітвах!*

*Дасылаем найлепшыя пажаданні Вашым бацькам: моцнага здароўя, даўгалецця, як мага больш радасці ад дзяцей і ўнукаў!*

***Удзячныя вернікі парафіі святых Апосталаў Пятра і Паўла з Дрысвят (Браслаўскі раён)***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем **ксяндза Славаміра Самковіча** з імянінамі (5 лістапада) і гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада)!*

*Жадаем Божага блаславення, апекі Маці Божай у нялёгкай справе служэння Богу і людзям. Мы Вас памятаем і молімся за Вас!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*З нагоды імянін, якія **ксёндз Яўген Міхайлаў** адзначае 30 лістапада, шчыра яго віншуем!*

*Жадаем Вам, ксёндз Яўген, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, моцнага здароўя і багатага плёну на Божай ніве. Няхай заўсёды Вас аберагае Ваш Анёл-ахоўнік!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем у газету пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці, радасці і гонару нашаму пробашчу **ксяндзу Віктару Захарэўскаму**, які 16 лістапада адзначыў юбілейную, 10-ую гадавіну святарскага пасвячэння!*

*Мы дзякуем Богу за дар Вашага жыцця, шаноўны ксёндз Віктар, і за ласку спаткання з Вамі на нашай зямлі! Дзякуем Вам за Божае слова, за Ваша вялікае, добрае сэрца, за Вашу цудоўную ўсмешку, глыбокую веру, за аптымізм і любоў да людзей.*

*Сардэчна дзякуем Вашым бацькам за выхаванне сыноў-святароў і выпрашаем у Пана Бога для Вашых бацькоў здароўя, доўгіх гадоў жыцця, апекі Маці Божай.*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Віктар, таксама моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, дароў Духа Святога! Няхай Пан Бог дапамагае Вам ажыццяўляць Вашы мары і задумы!*

***З вялікай павагай, любоўю і ўдзячнасцю, малітоўная група руху "Маці ў малітве" (касцёл Святых Анёлаў Ахоўнікаў, в. Раготна)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шмат гадоў прайшло з той пары, калі **а. Тадэвуш Кавальскі** пакінуў Маладзечна і парафію св. Казіміра ў сувязі з пераводам у іншую мясцовасць. Аднак да гэтага часу мы памятаем дарагога нам а. Тадэвуша, молімся за яго і жадаем для яго Божай ласкі, любові Хрыста, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцнага здароўя.*

*14 лістапада а. Тадэвуш адзначае Дзень нараджэння. Спадзяёмся, што яму будзе прыемна даведацца, што ў Маладзечне памятаюць і любяць дарагога для нас, вернікаў, святара.*

*Прыміце, а. Тадэвуш, найлепшыя пажаданні з гэтай нагоды! Запрашаем Вас наведаць нашу парафію. Калі Вы прыміце нашае запрашэнне, гэта будзе для нас вялікай радасцю!*

***З пашанай, вернікі парафіі св. Казіміра ў г. Маладзечна***

## Віншуем!



*Шаноўнаму **ксяндзу Мікалаю Ціхановічу** з нагоды імянінаў, якія ён адзначае 6 снежня, дасылаем найлепшыя пажаданні! Жадаем Божага блаславлення, апекі Маці Божай на кожны дзень, дароў Духа Святога, моцнага здароўя, радасці і супакою!*

***Францішканскі закон свецкіх у Вялікіх Эйсмантах (Гродзенская дыяцэзія)***

## Віншуем!

*З удзячнай цеплынёй і малітоўнай памяццю ўзгадваем мы, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў горадзе Чашнікі, свайго былога **ксяндза-пробашча Анджэя Бульчака**, які 30 лістапада адзначае імяніны. Сваёй высакароднай, самаадданай і бескарыснай святарскай працай ён заслужыў павагу і любоў усіх вернікаў нашай парафіі!*

*Назаўжды запомніліся казанні кс. Анджэя, поўныя любові, спачування і міласэрнасці да людзей. Атуляючы бязмерным клопатам і шчырай любоўю кожнага верніка, ад маленькіх дзяцей і моладзі да старэнькіх бабуль і дзядуль, кс. Анджэй дзяліўся цеплынёй свайго сэрца, запальваў агеньчык цікавасці да веры, да Бога, дапамагаў паверыць у Бога і Божую ласку, глыбей зразумець сэнс жыцця чалавека. Мы не перастаём дзякаваць Пану Богу за былога пробашча, за дар паклікання такіх ксяндзоў да святарства, за святара ад Бога! Уваходзячы у наш касцёл, мы кожны раз успамінаем Вас, шаноўны кс. Анджэй, Вашу нястомную працу па адраджэнні каталіцкай веры ў душах і сэрцах чашнічан. На пустым месцы і за такі кароткі час Вы здолелі пабудаваць наш утульны і прыгожы касцёл, дзе мы маем магчымасць узносіць малітвы да Госпада, прасіць яго пра здароўе і заступніцтва!*

*Нізкі паклон Вам за бязмежную любоў да людзей, да дзетак, за цярплівасць, за ласку і мужнасць!*

*Няхай Усемагутны Бог і Ваш Анёл-Ахоўнік заўсёды берагуць Вас, падтрымліваюць ва ўсіх Вашых планах і задумках і натхняюць на новыя стваральныя справы на карысць Каталіцкага Касцёла і людзей! Радасці і здароўя! Шмат сілы і моцы Вам, паважаны кс. Анджэй, у выкананні душпастырскай дзейнасці і пабудове новага касцёла на Пастаўшчыне!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага ў г. Чашнікі***

## Паважаны ксёндз Мікалай Ціхановіч!

*З нагоды Вашых імянін прыміце сардэчныя віншаванні і шчырую падзяку за духоўнае служэнне ў нашай парафіі.*

*Шчыра жадаем Вам Божай мудрасці, сілы духу, плёну ў працы на карысць Касцёла, светлай радасці і любові ў сэрцы, апекі святога Мікалая.*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Езусу Хрысту!

*Дасылаем у газету «Каталіцкі Веснік» – гэтую добрую вестку ў кожным доме, дзе Бог жыве, – нашы сардэчныя віншаванні з нагоды важных дат у жыцці шаноўных святароў, якія служылі ў нашай парафіі і зараз прыязджаюць да нас.*

***4 лістапада** – імяніны **ксяндза Віталя Маргунова**;*

***5 лістапада** – імяніны **ксяндза Славаміра Самковіча**;*

***6 лістапада** – дзень нараджэння **ксяндза Алега Півавара**;*

***12 лістапада** – гадавіна святарскага пасвячэння **ксяндзоў Генадзя Добрука і Алега Півавара**;*

***30 лістапада** – імяніны **ксяндза Анджэя Бульчака**.*

*Асаблівыя віншаванні і словы ўдзячнасці дасылаем **біскупу на пенсіі Уладзіславу Бліну**, які **20 лістапада** адзначае гадавіну святарскага пасвячэння. Шчыра дзякуем за ахвярную паслугу Богу і людзям! Ад усёй душы жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, усіх дароў Святога Духа! Моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля!*

*Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала вам і вашым родным праз усе далейшае жыццё!*

***З павагай і ўдзячнасцю, парафіяне касцёла Перамянення Панскага, г.Чашнікі***

## Хвала Хрысту!



*30 лістапада адзначае дзень імянін **ксёндз Андрэй Аніскевіч**.*

*Мы, парафіяне з горада Лепель, сардэчна віншуем Вас, ксёндз Андрэй, з нагоды гэтага свята! Зараз Вы служыце далёка ад нас, у горадзе Віцебск, у касцёле Езуса Міласэрнага. Але мы памятаем пра Вас і нізка кланяемся за Вашу любоў да Бога і да людзей.*

*Больш за дзесяць гадоў Вы былі з намі. Дзякуючы Вашаму таленту святара і самаадданай працы наша парафія ўзбагацілася духоўна і матэрыяльна. Касцёл набыў велічны і прыгожы выгляд. Вялікі дзякуй Вам за цудоўныя словы навукі, за выхаванне і навучанне моладзі, за клопат пра жывых і памерлых парафіянаў!*

*Мы ўдзячныя Пану Богу, што ёсць такі святар, да якога хочацца звяртацца і ў радасці, і ў горы, бо Вы заўсёды зразумееце і падтрымаеце.*

*Жадаем, шаноўны ксёндз Андрэй, моцнага здароўя і Божага блаславення, апекі і шчодрай ласкі Маці Божай Вам і Вашым родным! Заўсёды чакаем Вас у нашай парафіі!*

***Са шчырай малітвай за Вас, парафіяне касцёла св. Казіміра (г. Лепель)***

## Віншуем!

*Імяніны 30 лістапада адзначае **ксёндз Андрэй Аніскевіч**, пробашч парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску. З гэтай нагоды дасылаем самыя сардэчныя віншаванні і пажаданні з г. Ліды Гродзенскай вобласці. Жадаем моцнага здароўя, нястомнасці і сілы ў душпастырскай дзейнасці, ажыццяўлення ўсіх планаў і задумак на ніве працы дырэктара Дабрачыннага таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі.*

*Няхай Добры Бог, Найсвяцейшая Панна Марыя не пакінуць Вас без сваёй апекі, хай прыносяць радасць і суцяшэнне, будуць падтрымкай і апорай на працягу ўсяго жыцця і святарскай службы! Ад усяго сэрца жадаем жыццёвай развважлівасці, Божай ласкі на кожны дзень, а на доўгія гады – шчодрай Божай дапамогі, добрых і зычлівых людзей побач!*

***З павагай, сям'я Аніскевіч***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Ксёндз-пробашч Сяргей Сурыновіч** з парафіі Святой Тройцы ў Друі 11-га лістапада адзначае гадавіну святарскіх пасвячэнняў. Шаноўны ксёндз Сяргей! За 15 гадоў святарства Вы атрымалі нямала духоўных пладоў, адорвалі добрасумленнай святарскай паслугай шматлікіх вернікаў, развівалі атрыманыя ад Пана Бога таленты. Цешымся, што дзякуючы Божаму Провіду Вы, ксёндз Сяргей, з намі у друйскай парафіі. Пан Бог прамаўляе да нас Вашымі вуснамі. Вы дапамагаеце паглыбляць веру, падтрымліваеце і натхняеце на духоўны пошук шляху да збаўлення душы. Вашы намаганні накіраваны на тое, каб дом Божы прыгажэў і вернікам было ўтульна і радасна трываць у малітве.*

*Прыміце шчырыя словы падзякі за змястоўныя казанні, што дапамагаюць нам у штодзённым жыцці, за творчую працу на карысць Касцёла. Ганарымся, што захоўваецца гісторыя Друі, што цікавяцца і захапляюцца ёю мастакі і паэты. Няхай Бог міласэрны адорвае Вас патрэбнымі ласкамі! Багатага плёну на Божай ніве, моцнага здароўя, творчых поспехаў!*

***Вернікі з парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Віншуем!



*Шаноўны **кс. Анджэй Бочар**! Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння і імянінамі! Жадаем, каб Ваш жыццёвы шлях сваёй ласкай заўсёды асвячаў Езус Хрыстус, каб Панна Марыя атуляла мацярынскай апекай, а Дух Святы адарыў Вас сваімі дарамі! Няхай Бог і далей Вас натхняе на новыя справы і дае сілы на іх рэалізацыю, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі!*

***З павагай, касцельны камітэт парафіі Святога Станіслава (Далёкія)***

## Хвала Хрысту!

*Сардэчна віншуем нашых дарагіх святароў: 13 лістапада з днём нараджэння **ксяндза Чэслава Куцмежа SCJ**, а 30 лістапада з днём імянінаў **ксяндза Андрэя Бульчака**!*

*Шчыра дзякуем Вам за Вашу працу па адраджэнні духоўнага жыцця ў нашых парафіях, за дабрыню і навучанне любіць Пана Бога і бліжняга. Жадаем апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа, а ксяндзу Андрэю – поспехаў у хутчэйшай пабудове новага касцёла!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі пастаўскіх парафій***

# Што чакае тых людзей, якія займаюцца магіяй?

***"Што чакае тых людзей, якія займаюцца магіяй, чарамі, замовамі? Ці будуць за гэта адказныя іх родныя і будучае пакаленне? Ці могуць гэтыя людзі адбыць кару тут, на зямлі, а не пакутаваць у пекле?"***

*Вернікі з Германавіч*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Катэхізіс Каталіцкага Касцёла аднosна варажбы і магіі гаворыць: *"Любыя формы варажбы павінны быць адкінутыя: спробы звяртацца да сатаны або да дэманаў, выкліканне памерлых, а таксама іншыя метады, якія нібыта "адкрываюць" будучыню. Зварот да гараскопаў, астралогія, хірамантыя, тлумачэнне прадвесцяў і лёсу, феномены празорлівасці, зварот да медыумаў – усё гэта ўтойвае ў сабе жаданне атрымаць уладу над часам, над гісторыяй і, у канчатковым рахунку, над чалавекам. Адначасова – гэта і імкненне выклікаць прыхільнасць да сябе пэўных акультных сілаў. Усе падобныя з'явы знаходзяцца ў супярэчнасці з глыбокай пашанай і павагай, злучанымі са страхам, поўнымі любові, якія належаць аднаму толькі Богу. Якое б там ні было ўжыванне магіі або чараўніцтва, з дапамогай чаго спрабуюць прыручыць акультныя сілы, каб карыстацца імі і валодаць звышнатуральнай уладай над бліжнім, хоць бы і для таго, каб даць яму здароўе, сур'ёзна супярэчыць рэлігійнай дабрадзейнасці. Такога кшталту практыка яшчэ больш заганная ў тым выпадку, калі да яе звяртаюцца з намерам нашкодзіць каму-небудзь ці калі гаворка ідзе пра ўмяшанне дэманаў. Таксама заслугоўвае асуджэння звычка насіць амулеты"* (ККК 2116-2117).

Такім чынам, любыя праяўленні магіі і варажбы з'яўляюцца цяжкім грахом, які пазбаўляе чалавека асвячальнай ласкі. *"Калі ён не адкуплены раскаяннем і прабачэннем Божым, то прыводзіць да выключэння з Валадарства Хрыстовага і вечнай смерці ў пекле"* (ККК 1861).



*"Хрыстос устанавіў сакрамант споведзі для ўсіх грэшнікаў – чальцоў Яго Касцёла, і перш за ўсё для тых, хто пасля хросту ўпаў у цяжкі грэх і такім чынам страціў ласку"* (ККК 1446). Адзіны шлях да збаўлення для людзей, якія знаходзяцца ў стане цяжкага граху, – гэта раскаяцца і пасправядацца ў гэтым жыцці, бо *"смерць кладзе канец чалавечаму жыццю як часу, адкрытаму для прыняцця або адкідання ласкі Божай"* (ККК 1021). *"Душы тых, хто памірае ў стане смяротнага граху, непасрэдна пасля смерці сыходзяць у пекла, дзе перажываюць пякельныя пакуты, "агонь вечны"* (ККК 1035).

Каб не пакутаваць у пекле, чалавек павінен пакаяцца ў гэтым жыцці.

Адносна адказнасці родных і наступных пакаленняў Святое Пісанне кажа: *"Душа, якая грашыць, памрэ; сын не панясе віны бацькі, і бацька не панясе віны сына; праўда справядлівага пры ім і застаецца, і беззаконнасць беззаконнага пры ім застаецца"* (Ез. 18, 20).

# Что делать человеку, на которого наложено проклятие?

***«Что делать человеку, на которого наложено проклятие, к кому ему обращаться? Является ли причиной действия магии на человека наша неискренняя вера в Бога?»***

*Верующие из Германович*

**На вопрос отвечает кс. Олег Петрашко:**

– Отвечая на этот вопрос, хочу привести аналогию. Когда иммунная система нашего организма не ослаблена, то атакующие её вирусы не могут нанести сильного урона или вообще принести какого либо вреда. Если же у нас есть определенные проблемы, то хорошо знаем, что всякие болезни и простуды легко могут человека вывести из строя. Проклятия можно сравнить с вирусом. Этот вирус духовного порядка, источником которого является злой дух. Люди в своей злобе часто призывают злого духа и желают его пагубного действия. Это происходит тогда, когда человек проклинает. Это может быть животное. Например, люди проклинают свою курицу, от которой берут яйца, и потом удивляются, почему болеют, хотя ничего несвежего не кушали. Злому духу звери не интересны, он может ими воспользоваться настолько, в какой степени через них можно принести вред человеку, духовный или физический. Такого рода проклятиями будут матные, вульгарные слова, которые в своём большинстве и являются проклятиями, пожеланиями или характеристиками другого человека.

Есть и иная форма проклятия – оккультические проклятия. Они связаны с проведением определенного сатанистического обряда, с явным и конкретным обращением к сатане, которого просят сделать какое либо зло. Зачастую после проклятия с человеком происходят разные неприятности: ухудшается состояние здоровья, погибают домашние животные, меняются на невыносимые отношения между доселе близкими людьми, вплоть до разводов и беспричинной ненависти и т.д.

## Важность святой воды и благословения

Тяжёлыми в своих последствиях являются проклятия родителей в адрес своих детей. Библия говорит (Сирах 3, 9): «Благословение отца утверждает домы детей, а проклятие матери выворачивает фундаменты». «Домы» – это значит, последующие поколения. Благословение отца не исчерпывается жизнью сына или дочери, если оно сохранено, то переходит к их детям и к детям детей. Поэтому так важно просить благословение у своих родителей, а родителям благословлять своих чад. Очень важно, чтобы папы и мамы утром и на ночь благословляли детей, совершая крестное знамение над ребёнком и прося Бога беречь и быть с сыном или дочкой.

Из своего священнического опыта знаю, что такое благословение родителей, даже одного из них. Оно прерывает всякого рода испуги и оккультические проклятия у детей. Проклятием будет так же обращение к бабкам-шептухам, постоянные поездки туда с детьми, потому что этим самым мы открываем злому духу возможность вредить своим детям. Если каждый родитель будет благословлять своего ребенка во имя Иисуса Христа и Святой Троицы, никакого рода зло не посмеет атаковать ребенка! К сожалению, мы забываем об освящённой воде в наших домах, часто она годами стоит в холодильнике и достаётся оттуда только на визит священника. Освящённая вода должна быть используема для совершения ею крестного знамения в наших домах и квартирах.

## Спасение совместной молитвой

От проклятий в семье спасает совместная супружеская молитва. Идеально, если это молитва вместе со всей семьёй, молитва родителей за себя взаимно и за детей, молитва детей за своих родителей. Думаю, каждая семья может найти 20-30 минут времени на совместный Розарий, Венчик к Божьему Милосердию и короткую молитву благодарения, просьбу и прославления Бога своими словами. Открывает глаза на происходящие в духовном мире чтение Святого Писания. Самым действенным методом обезоруживания сатаны в нашей жизни является верность трём духовным фундаментам. Христос назвал их «малыми вещами», которые нам ничего не стоят, которые легки в достижении и не требуют финансовых или больших физических затрат. Эти фундаменты – молитва, верность в практике таинств (Воскресная св. Месса, Причастие и т.д.), чтение и размышление над Божьим словом, Библией.

В заданном вопросе затрагивается тема оценки веры и поиск связи между искренностью веры и возможностью воздействия магии в жизни человека. Человек без связи с Богом, без веры – как человек без иммунной системы. Мы можем привыкнуть к некоторым болям, заболеваниям. Опаснее, когда это заболевание, на первый взгляд, неопасное и негрозное, может стать причиной смерти. Сатана в душе человека действует как вирус: сразу после заражения мы и не догадываемся, что он у нас присутствует в организме. Через некоторое время начинается озноб, ломит кости, иногда мы пытаемся лечить себя сами: пьём мёд и горячее молоко, и кажется, что болезнь отступает, но это не так. Приходит мощный удар, когда человек находится под угрозой, высокая температура, потеря сил, начинаются разные другие проблемы со здоровьем…

Наша Вера нас хранит, это Она подсказывает: что-то не так, падает градус моей Любви и совсем не остается Надежды. Вера является Даром Бога человеку. Мы несем за неё ответственность, как и за физическое здоровье. И только Бог даёт развитие Вере, через Веру вступаем в диалог с Богом, видя Его провидение и любовь ко мне, я отвечаю тоже любовью. Вначале своей, человеческой, позже, наполняясь Его Любовью, становлюсь Его Апостолом, учеником и сеятелем Любви в других людях. Всё это приводит к возрастанию Надежды, которая делает меня Новым Творением, как пишет Апостол Павел.

Поэтому искренность веры в Бога – это не вопрос исключительного моего желания. Я верен в духовных практиках, строю жизнь на выше перечисленных фундаментах и тогда могу оценить свою, и только свою веру.

## Нельзя возвращаться к греховной жизни

Если же человек считает, что имеет в его жизни место проклятие, то единственно верное средство не дать ему уничтожать себя – это обращение к Богу. Хорошо подготовленная и пережитая исповедь, также прощение обидчикам и просьба прощения, кого обидел я. Молитва за свою семью, за умерших предков, особенно, если мы знаем какие-либо плохие поступки из их жизни. Прерывание контакта с любой формой зла.

Очень часто мы сами навлекаем на себя проклятие: ношение красной нитки на запястье, амулетов, колец и перстней с оккультной символикой, походы по гадалкам и экстрасенсам, аборты и проклятия в адрес других людей и т.д.

После исповеди, конечно, не надо возвращаться к «прошлой» жизни. Иисус Сам говорит про это: «Тогда идёт и берет с собой семь других духов, свирепейших себя, и они, войдя, живут там, и бывает для человека того последнее хуже первого…» (Мт 12, 45). Надо помнить, что в духовном мире нет золотой середины: или мы с Христом, или с сатаной.

В некоторых ситуациях проклятия могут иметь такое влияние, что необходима помощь экзорциста.

# ПАЗНАВАЙКА

### Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

## Даведайся прозвішча

Тэрыторыя, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам біскупа, называецца дыяцэзія. У Беларусі ёсць 3 дыяцэзіі: Віцебская дыяцэзія, Гродзенская дыяцэзія, Пінская дыяцэзія.

А вось дыяцэзія, якую ўзначальвае арцыбіскуп, завецца архідыяцэзія. У нашай краіне ёсць толькі адна архідыяцэзія. Яна называецца Мінска-Магілёўская. Схаванае прозвішча арцыбіскупа, кіраўніка Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, даведаешся, калі размалюеш вялікія кружочкі чырвоным колерам.



## Замяні час на літары

Кожны хлопец, юнак, які хоча стаць ксяндзом павінен шмат вучыцца. І спецыяльны дом, у якім вучацца будучыя святары, ксяндзы, называецца СЕМІНАРЫЯ. У нашай краіне Беларусі таксама ёсць два такія месцы для навучання будучых святароў.

Адна семінарыя знаходзіцца ў горадзе Гродна. А назву горада, у якім знаходзіцца другая семінарыя, даведаешся, калі заменіш час на літары.




Адказ запішы.

| 12 | 3 | 5 | 9 | 11 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

## Палічы правільна

Коькі ёсць біскупаў у Беларусі даведаешся, калі правільна палічыш.

Адказ запішы_______________

1 + 3 - 2 + 2 + 3 + 1 + 1 =

## Адгадай мясцовасць, у якой знаходзіцца санктуарый

Пачні адгадваць ад чырвонай стрэлкі. Ідучы па зялёнай дарожцы, выпішы літары ў кружках адну за другой. Калі дойдзеш да канца, прачытай у зваротным парадку, што напісаў. У цябе атрымаецца назва мясцовасці, дзе знаходзіцца галоўны нацыянальны санктуарый Беларусі з цудадзейным абразом Маці Божай. _________________






## Разгадай крыжаванку і прачытай пра святога



Нарадзіўся святы Андрэй каля 1591 г. Доўгі час вёў адданую місіянерскую дзейнасць на Піншчыне. Святы Андрэй хадзіў праз балоты з вёскі ў вёску, несучы святло Божай праўды ў самыя аддаленыя куточкі Палесся. Дзякуючы яго намаганням шмат людзей навярнулася да Бога і паядналася з Каталіцкім Касцёлам. У той жа час рэзка абвастрыліся адносіны паміж канфесіямі, у першую чаргу — з праваслаўнаю. Супярэчнасці на рэлігійнай глебе імкнуліся выкарыстаць для дасягнення сваіх брудных мэтаў розныя сілы. Адной з такіх сілаў былі казакі, якія дзейнічалі цалкам бескантрольна і тэрарызавалі ўсё мясцовае насельніцтва. У сераду 16 мая 1657 г. казакі ўварваліся ў Янаў Палескі (сучаснае Іванава Брэсцкай вобл.), дзе яны забілі ўсіх католікаў і жыдоў, не зважаючы на ўзрост, пол і паходжанне.

Даведаўшыся, што незадоўга перад гэтым з Янава выйшаў святы Андрэй, выправіліся за ім у пагоню. Схапіўшы, яго страшэнна збілі і, прывязанага паміж двума канямі, прыцягнулі ў Янаў. Там казакі некалькі гадзін люта здзекаваліся са сваёй ахвяры, выдумляючы ўсё новыя жахлівыя катаванні, пасля чаго два ўдары шабляй перарвалі зямное жыццё святога.

*Як ужо прачыталі, імя святога – Андрэй. А прозвішча даведаешся, калі разгадаеш крыжаванку. У зялёных клетках зверху ўніз прачытай атрыманае прозвішча.*






1. Езус накарміў людзей хлебам і …
2. Горад, у якім шмат год жыў Езус.
3. Якой прафесіі быў Пётр?
4. Хто даў запаведзі Маісею?
5. ... Ахоўнік.
6. Як завуць Маці Езуса?

## Дабудуй Касцёл

Нашы бабулі і дзядулі яшчэ памятаюць, як моцна быў пераследаваны Касцёл у нашай краіне. Вельмі шмат святыняў разбурылі, знішчылі. Але вера на нашых землях, якую мы цяпер маем, захавалася, бо людзі моцна баранілі яе.

На малюнку паказаная разбураная святыня. І твая задача яе дабудаваць, дамаляваўшы цаглінкі і ўсталяваўшы новы крыж. Гэта своеасаблівы знак таго, што вера перамагла і Касцёл у Беларусі жыве!



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Калі адзначаецца свята Божага Цела?

*“Калі адзначаецца свята Божага Цела? Многія календары маюць разыходжанні адносна самой літургіі: у адных адзначаецца ў чацвер, а ў іншых – у нядзелю”...*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Паводле прынятага ў нашай краіне літургічнага календара, урачыстасць Божага Цела, дакладней кажучы, Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана, адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы, г. зн. праз 60 дзён пасля ўрачыстасці Уваскрасення Пана. Згодна з Кодэксам Кананічнага Права, вернікі абавязаныя ў гэты дзень удзельнічаць у святой Імшы, паколькі Божае Цела належыць да 10 святочных дзён, у якія, падобна як у нядзелю, католікі павінны ўдзельнічаць у Эўхарыстыі. Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана мае асаблівы характар, бо непасрэдна паказвае на таямніцу эўхарыстычнай ахвяры Езуса Хрыста і Яго прысутнасці ў святых постацях хлеба і віна. У гэты дзень урачыста ўспамінаецца Апошняя Вячэра і ўстанаўленне сакраманту Цела і Крыві Хрыста, а таксама ўзносіцца падзяка Богу за вялікі дар, дадзены Касцёлу.

Гісторыя ўрачыстасці Божага Цела сягае ў XIII ст., калі св. Юліяна з Льежа (Liège) падчас містычных візій атрымала ад Бога заданне прывесці да ўстанаўлення свята ў гонар Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста. У 1246 годзе ўрачыстасць была ўстаноўленая ў Льежы (Liège), пазней, у 1252 годзе, у Германіі, а пасля аб'яўленняў у Бальсене Папа Урбан IV у 1264 годзе ўстанавіў урачыстасць Божага Цела для ўсяго Касцёла, а Папа Ян XXII у 1317 годзе ўвёў яе ў літургічны каляндар. Мэтаю святкавання было перапрашэнне за знявагі, учыненыя Найсвяцейшаму Сакраманту.

Не ва ўсіх краінах урачыстасць Божага Цела адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Там, дзе па нейкіх прычынах (напр., працоўны дзень) складана або немагчыма святкаваць на працягу тыдня, Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў можа, атрымаўшы згоду Апостальскай Сталіцы, перанесці ўрачыстасць на іншы дзень. Пры гэтым Кангрэгацыя Божага Культу ўдакладняе, што святкаванне Божага Цела пераносіцца на нядзелю пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Паколькі ў Беларусі ўрачыстасць Божага Цела не з'яўляецца выходным днём, існуюць падставы для пераносу ўзгаданага свята на нядзелю пасля ўрачыстасці.

Сыходзячы з гэтых меркаванняў, у некаторых парафіях і гарадах, на моц распараджэння біскупа, урачыстасць Божага Цела святкуецца менавіта ў нядзелю, калі ў святой Імшы і ўрачыстай працэсіі можа ўдзельнічаць вялікая колькасць вернікаў. Аднак неабходна памятаць, што пакуль у нашай краіне асноўным днём святкавання ўрачыстасці Божага Цела застаецца чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. У гэты дзень, як і ў іншыя абавязковыя святы, вернікі павінны ўдзельнічаць у святой Імшы.



**Працэсія Божага Цела ў Глыбокім у 2015 годзе.** *Фота Марыны Сінкевіч*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**20 лістапада 2016 г.**

***Лк 23, 35-43***

Толькі святы Лука, аўтар сённяшняга Евангелля, піша пра разбойніка, які навяртаецца на крыжы. Лука – пясняр Божай справядлівасці – указвае нам на Хрыста-Валадара, Які быў адкінуты грэшнымі і ганарлівымі і абсмяяны, як фальшывы кароль. Тым часам, Езус – гэта Валадар сусвету, Які мае ўладу над грахом і смерцю. Ён праяўляе сваю магутнасць праз міласэрнасць. Заканчваецца юбілейны Год Міласэрнасці ў Касцёле, а перад намі наш Валадар, Які мае ўладу сказаць разбойніку, каторы пакаяўся: “Сёння будзеш са Мной у раі”.

*– Ці іду, як Сымон Кірынеец, за Езусам, адважна несучы Крыж Міласэрнасці?*

*– Ці хадзіў я ў мінулым годзе дарогамі міласэрнасці?*

*– Ці адчуваў цяжар і збаўчую магутнасць прабачэння ў Імя Хрыста?*

*– Ці аплакваў, нягледзячы на забарону, несправядлівасць, наследуючы жанчын з Крыжовай дарогі?*

*– А можа, сам таптаў справядлівасць і неміласэрна крыўдзіў людзей і Хрыста?*

*– Ці не даводзілася смяяцца і пагарджаць моцай любові і міласэрнасці?*

*– Ці прызнаў сёння яшчэ раз Езуса сваім Панам?*

*– Ці аддаю сваё жыццё ў Яго рукі?*

*– Ці дазваляю, каб Яго Валадарства было ў маім сэрцы?*

*– Ці прашу ў Яго міласэрнасці?*

*– Ці прашу Яго навучыць мяне жыццю і міласэрнасці?*

*– Ці давяраю Яго моцы?*

**27 лістапада 2016 г.**

***Мц 24, 37-44***

Езус у сённяшнім Евангеллі адназначна і рашуча гаворыць, што чалавечым намаганні прадказаць дзень і гадзіну чарговага прыйсця Езуса і канца свету будуць безвыніковымі. Гэта невядома і не будзе вядома нікому. Вялікае значэнне, аднак, мае чуванне: пастаянная гатоўнасць даць справаздачу сваёй любові. Божай воляй для нас з'яўляецца запаведзь любові Бога і бліжняга. Гарантыяй таго, што мы на добрай дарозе, ёсць штодзённае разважанне над Божай воляй, якую Ён перадаў нам у Божым слове, у вучэнні Касцёла, у голасе сумлення. Трэба кожны дзень трымацца за Божую руку, жывучы ў асвячальнай ласцы, рэгулярна спавядаючыся і будуючы Валадарства любові – Божае Валадарства ў сабе і вакол сябе.

*– Ці не маю нездаровай схільнасці бегаць за фальшывым і не касцельным вучэннем?*

*– Можа, хачу зразумець Бога і пранікнуць у Яго справы, забываючыся, што Ён аб'яўляе, што хоча, што нам трэба і што мы здольныя прыняць?*

*– Можа, з'яўляюся прыхільнікам духоўнасці, якая нязгодная з вучэннем Касцёла?*

*– Адвэнт – гэта добры час, каб задумацца, чаго чакаю я і на што спадзяюся?*

*– Ці не маю часам магічнага падыходу да веры?*

*– Як сёння я шукаў Божай волі?*

*– Як сёння выконваў яе?*

*– Ці зрабіў я намаганні, каб споведзь была для мяне часам умацавання і радасці?*

*– Якое дабро раблю сёння?*

*– Ці чуваю, каб быць заўсёды ў справах любові?*

**4 снежня 2016 г.**

***Мц 3, 1-12***

Першая палова Адвэнту накіроўвае нашу ўвагу на чаканне Езуса, Які прыйдзе судзіць жывых і памерлых. Прыйдзе да сваіх, каб правесці іх да вечнага шчасця. Ян рыхтуе сэрцы людзей, каб былі адкрытымі і прынялі збаўчую дзейнасць Езуса. Вера павінна нарадзіць плён. Бясплённае дрэва трэба спаліць. Патрэбна навяртанне, перамена свайго недасканалага жыцця. Трэба адрачыся ад зла, прысутнага ў нашым жыцці. Мы з'яўляемся выбранымі Бога і павінны жыць згодна з гэтым выбраннем. Бог выбраў нас з любові, а не таму, што мы былі Яму неабходнымі. Варта ацаніць гэты факт. Трэба адкрыць сваё сэрца на новы вобраз блізкасці з Богам. Нас з Ім яднае Святы Дух. Гэта акалічнасць была важнай для ізраільцянаў і фарысеяў. Тым больш яна датычыць нас, новага выбранага народа.

*– Ці чакаю кожны дзень, каб прыняць Езуса да свайго сэрца ў Святой Камуніі?*

*– Ці цаню Яго прысутнасць у сваім жыцці?*

*– Ці Яго я выбраў Валадаром свайго жыцця?*

*– Ці разумею, што гэта Ён запрасіў мяне да еднасці з Ім?*

*– Ці не думаю, што раблю Яму ласку?*

*– Ці заўсёды я гатовы адрачыся ад сваіх грахоў?*

*– Ці хачу, каб Езус ачышчаў маю любоў?*

*– Ці прыносіць мая любоў плён?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці прашу Бога, каб Ён рабіў маё жыццё плённым?*

*– Ці адкрываюся на дзеянне Святога Духа, каб Ён умацоўваў маю еднасць з Богам?*

**11 снежня 2016 г.**

***Мц 11, 2-11***

Ян Хрысціцель рыхтуе дарогу для Месіі. У Евангеллі мы бачым, што на Хрыста ўказвала не толькі яго вучэнне, але і жыццё, і нават смерць. Вялікі Божы чалавек усім сваім жыццём рыхтуе дарогу Месіі да сэрцаў выбранага народа. Кожны з вучняў Божага Валадарства павінен вучыцца ад Яна, як быць Божым чалавекам. Трэба памятаць, што мы ўдзельнікі Божага Валадарства дзякуючы асаблівай прысутнасці Бога ў нас. Гэта наш гонар і абавязак. Наша чалавечнасць павінна раўняцца на Янаву руплівасць і ахвярнасць.

*– Ці разумею, што маё жыццё – гэта працяг збаўчай місіі Хрыста?*

*– Дзе і ў якіх справах выконваю Божую справу ў свеце?*

*– Што яшчэ Бог мог бы і хацеў зрабіць праз мяне для праяўлення Божай хвалы?*

*– Ці з'яўляюся я сведкам Божай любові ў сваім сужэнстве?*

*– Ці не руйную Божую любоў, разбураючы іншыя сужэнствы?*

*– Ці з'яўляюся сведкам Божай бацькоўскай любові праз выкананне сваіх бацькоўскіх абавязкаў?*

*– Ці з'яўляюся сведкам Божай міласэрнасці праз міласэрнасць да слабых?*

*– Ці разумею, што мае пошукі Божай волі і спробы зразумець Божыя таямніцы – гэта частка Божай справы?*

*– Ці разумею, што ва ўсім, што я раблю, Бог хоча праявіць сваю хвалу?*

*Разважанні падрыхтаваў* **кс. Павел Кнурэк**
*www. lyntupy.by*

# «Каталіцкі Веснік” прапануе гульню-самаклейку на Адвэнт для дзяцей

**Прапануем увазе нашых чытачоў дзіцячую гульню-самаклейку на Адвэнт. Яе ідэя ў тым, каб заахвоціць дзяцей да больш руплівага перажывання часу чакання Божага Нараджэння.**

Гульня выканана як мазаіка. Дзеткам неабходна запоўніць малюнак, наклейваючы каляровыя элементы на шаблон з контурамі малюнка**.** Гульня-пазл на Адвэнт вельмі папулярная ў парафіях падчас раратаў, калі дзеці прыходзяць у касцёл і атрымліваюць ад сясцёр або святара яе элементы. Напрыканцы тыя, каму ўдалося сабраць увесь малюнак гульні, атрымліваюць падарункі.

Але адвэнтовую гульню-самаклейку можна выкарыстаць і дома. Напрыклад, бацькі могуць патлумачыць дзецям пра неабходнасць зрабіць нейкі добры ўчынак: атрымаць высокую адзнаку ў школе, памыць посуд, выгуляць сабаку ці дапамагчы з урокамі брацiку або сястрычцы. За кожны добры ўчынак дзіця атрымлівае элемент-самаклейку і запаўняе малюнак. Такім чынам, зрабіўшы добрыя ўчынкі на працягу Адвэнту і сабраўшы ўсе пазлы, дзеці атрымліваюць асалоду ад гульні, разумеюць патрэбу дабра і, безумоўна, могуць разлічваць на падарунак ад мамы і таты.

Гульня-самаклейка на Адвэнт памерам А4 распрацаваная ў рэдакцыі “Каталіцкага Весніка”. **Мастачка – Вольга Будкіна** з Глыбокага.

**Каб замовіць гульню-самаклейку можна:**

**1. Напісаць ліст у рэдакцыю па адрасе: вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае, Віцебская вобласць.**

**2. Патэлефанаваць па нумары: +375 29 736 53 07.**

**3. Напісаць нам на э-мэйл: katalickivesnik@gmail.com. У загалоўку ліста, калі ласка, пазначце тэму адвэнтовай гульні.**

**4. Складсці замову праз суполку УКантакце.**

Кошт гульні-пазла – 1 рубель. Пры замове ад 10-ці штук кошт за гульню – 80 кап. У камплект гульні ўваходзіць: шаблон з контурамі на цвёрдым картоне і каляровы малюнак-пазл на паперы-самаклейцы.



**Увага!!!**

Гульня-самаклейка высылаецца накладзеным плацяжом. Пакупніку неабходна будзе аплаціць выдаткі па перасылцы.

**Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка” жадае ўсім плённага Адвэнту!**

## Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!



*Дазвольце шчыра падзякаваць Вам за каталіцкую газету, з якой мы даведваемся пра самыя важныя падзеі ў жыцці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, за цікавыя інтэрв'ю і рэпартажы, за няпростыя пытанні і адказы. Ад усяго сэрца хачу аддзячыць Вам! Ваша газета патрэбная для ўсіх. Шчыры дзякуй за добрую вестку ў дом. Выказваю вялікую пашану і ўдзячнасць за Вашу натхнёную працу на Божай ніве, за прыгажосць душы. Добрага здароўя Вам і добразычлівых людзей побач!*

*З надыходам свята Божага Нараджэння і Новым 2017 годам! Няхай Вам заўсёды спадарожнічае ўдача, хай маленькі Езус блаславляе ў святарскай працы, а Маці Божая хай атуляе мацярынскай любоўю! Мы заўсёды будзем памятаць пра Вас у сваіх малітвах!*

***Ядзвіга Жолнер, чытачка “Каталіцкага Весніка”***



## Вялікі дзякуй святару!



*Наш былы пробашч* ***ксёндз Алег Півавар*** *працаваў у парафіі святога Айца Піа ў мястэчку Лёзна 11 гадоў. Цяпер ксёндз Алег працуе ў Валкалатах у парафіі святога Яна Хрысціцеля.*

*Гэта вельмі добразычлівы, добрасумленны і шчыры чалавек. Дзякуючы намаганням, працы, уменню і цярплівасці, залатым рукам ксяндза Алега мы маем утульны і прыгожы Божы храм, пакуль крыху недабудаваны. Пробашч усе свае сілы накіроўваў на будаўніцтва касцёла, на духоўнае адраджэнне парафіі. У святыню мы прыходзім са сваім болем і смуткам, радасцю і шчасцем, памаліцца ў цішыні і паразмаўляць з Богам.*

*У нашага паважанага ксяндза Алега 6 лістапада дзень нараджэння. Ад усяго сэрца віншуем яго з 35-годдзем! Перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці ў працы на нялёгкай ніве святарства!*

*Няхай Вашае сэрца, ксёндз Алег, перапаўняе святло нашай любові, якой Вы будзеце дзяліцца з тымі, хто не патрабуе. Няхай Пан Езус ласкава прытуліць Вас да Свайго Сэрца і блаславіць на святарскім шляху. Няхай Маці Божая, якая даручыла ў Вашы рукі свайго Сына, атуляе Вас мацярынскай любоўю і ахінае сваім нябесным плашчом!*

*Нізка кланяемся і шчыра дзякуем, наш любімы ксёндз Алег, за клопат, за ласку, сардэчнасць і дабрыню, за цеплыню рук, за ўсмешку, якую Вы нам заўсёды дарылі. Мы будзем памятаць і маліцца за Вас усё жыццё! Мы любім Вас і чакаем Вас, дарагі айча, да сябе ў госці. Для Вас назаўсёды адкрытыя нашы душы і сэрцы, а таксама нашы хаты. Прыязджайце ў любую часіну, мы будзем вельмі рады!*

*Шчасці, Божа, бацькам за сына-святара! Няхай добры Бог адорыць іх моцным здароўем, патрэбнымі ласкамі, супакоем, шчасцем, верай, надзеяй!*

***Данута Голубева –***
***ад імя ўсіх вернікаў парафіі святога Айца Піа ў Лёзне***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 6995

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.11.2016 г. у 13.18

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь